# НАША НІВА

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №13 (170) 27 САКАВІКА 2000 г.


# ДЗЕНЬ ВОЛІ: 420 ЗАТРЫМАНЫХ

## Найбуйнейшая паліцэйская апэрацыя ў Менску за 50 гадоў

## Быкаў, Сурвілла і Пазьняк спаткаліся ў Празе




Фота IREX-ProMedia

# КАНЕЦ ІЛЮЗІЯЎ

Менчукі ў суботу не пазналі свайго праспэкту Скарыны. У горадзе дыжурылі бронетранспарцёры з кулямётамі напагатове на вежках — пяць на пл.Незалежнасьці, два на пл.Перамогі, два на пл.Якуба Коласа, два ля Акадэміі Навук. На плошчах Перамогі і Незалежнасьці стаялі вялізныя вадамёты. Каля 40 спэцгрупаў з сабакамі гатовыя былі прыйсьці на дапамогу кулямётчыкам і вадамётчыкам. Вуліцы Чырвоная, Якуба Коласа, праспэкт ад праходной заводу Леніна да пл.Незалежнасьці былі ачэпленыя экіпаванымі салдатамі ўнутраных войскаў — праз кожныя 12 мэтраў стаяў салдат. Вялізныя сілы вайскоўцаў і міліцыянтаў стаялі напагатове ў дварах на Залатой Горцы, ля вуліцы Кісялёва, на берагах Сьвіслачы, ля вуліцаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, ля Акадэміі Навук. Мабыць, гэта была найбуйнейшая вайсковая апэрацыя ў Беларусі з пасьляваенных часоў. У школах і ўнівэрсытэтах на Дзень Волі арганізавалі абавязковыя для наведваньня мерапрыемствы. Гэткае Зьвеставаньне і Дзень Незалежнасьці падрыхтавалі менчукам улады.

Аб 11.45 сядзіба Беларускага Народнага Фронту была ўзятая штурмам спэцаддзелам у бронекамізэльках і чорных масках, а ўсе «падазроныя» амонаўцам людзі, хто там быў, збольшага маладыя, затрыманыя.

Небясьпечная сытуацыя была створаная ў падземным пераходзе на станцыі "Плошча Якуба Коласа" — станцыя не была закрытая, але ў падземным пераходзе ад 10-й былі перакрытыя выхады да Філярмоніі і на плошчу, без ачапленьня застаўся толькі выхад да Камароўскага рынку. Такім чынам у падземным пераходзе перамяшаліся тысячы людзей (тыя, хто ня мог трапіць на мітынг і чакаў; тыя, хто ішоў на базар альбо вяртаўся адтуль). Пачалася цісканіна, зь якой цяжка было выбрацца. Магчыма, улады хацелі справакаваць штурханіну накшталт няміскай.

Была перакрытая кардонамі міліцыянераў вул.Чырвоная, тут супрацоўнікі міліцыі з сабакамі з асаблівай жорсткасьцю затрымлівалі маладых людзей, нават не высьвятляючы, куды яны накіроўваюцца. Вялізную колькасьць людзей затрымалі каля Філярмоніі, паліграфкамбінату імя Якуба Коласа, Акадэміі спорту. Хапалі найперш тых, хто нёс сьцягі, транспаранты, выгукваў патрыятычныя лёзунгі, сароміў цэрбэраў, здымаў тое, што адбывалася.

У натоўп былі накіраваныя і правакатары. Кіраўніца Гельсынскага камітэту Тацяна Процька сьведчыць, што сама каля яе нейкі мардаты доўга крычаў на дэманстрантаў «ідзіце працуйце, што вы тут сабраліся», «вы найміты Захаду», «што, баіцеся мяне зачапіць» і ўсё такое. Пакрычаўшы гэтак з хвілінаў колькі, ён падышоў да афіцэра міліцыі і спытаўся: «Ну, што, ужо ўсё, можна ісьці?» Гэта Ваш супрацоўнік? — пацікавілася спн.Процька ў афіцэра. Той сумеўся і адказаў, што гэта не зь ягонага аддзелу. Неўзабаве спн.Процька была затрыманая.

Затрыманьні адбываліся з дэманстратыўнай жорсткасьцю: людзей выхоплівалі з натоўпу і цяглі за валасы, білі дручкамі. Відавочная мэта ўсяго гэтага — напалохаць як мага болей людзей, адбіць у іх ахвоту хадзіць як на санкцыянаваныя, так і на несанкцыянаваныя акцыі.

Працяг на старонцы 6.



Фота IREX-ProMedia

# БЫКАЎ ДАЕ ПАДКАЗКУ ПАЛІТЫКАМ

*Сьвяточная акадэмія ў Празе*

У Празе сёлета на ўгодках БНР 25 сакавіка было шмат ганаровых гасьцей — навукоўцаў, палітыкаў, літаратараў, шмат было моладзі, а таксама палітычных уцекачоў зь Беларусі, па-чэску «упырхлікаў». Прыкметай сьвята стаў прыезд Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы. Госьці наведалі праскія могілкі, дзе пахаваныя прэзыдэнты БНР Пётра Крэчэўскі і Васіль Захарка, а таксама слынны сьпявак М.Забэйда-Суміцкі. Урачыстую акадэмію вяла Ганна Сурмач, якая цяпер у лягеры для ўцекачоў чакае чэскага палітычнага прытулку.

Удзельнікі акадэміі ўжо мелі першыя зьвесткі пра менскі «хапун», таму Івонка Сурвілла ў сваёй прамове сказала: «Як Старшыня Рады, сёньня, як ніколі, патрабую помачы кожнага з вас. Бо Беларусь знаходзіцца ў вялікай небясьпецы. Чым нас больш, тым мацнейшы наш голас».

Спаміж урачыстых і горычных прамоваў зьвярнуў на сябе ўвагу выступ народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, які гаварыў пра істотную хібу, што спадарожыць беларускай ідэі ад 1918 году.

Працяг на старонцы 6.

# ПАПЯРЭДЖАНЬНЕ «НАШАЙ НІВЕ»

«Усё нешта ня так у нашым каралеўстве: кіраўнікі дзяржавы імкнуцца пазбавіць яе самастойнасьці, моўныя ведамствы судзяцца зь беларускамоўнымі газэтамі, а ўправа аховы помнікаў, замест ратаваць, зносіць усю чыста спадчыну», — пісалі мы ў пазатым нумары. І вось: Дзяржкамдрук даў нашай газэце папярэджаньне «за распальваньне міжнацыянальнай варожасьці» за публікацыю ў тым самым нумары ліста нашай чытачкі зь Менску Т.Судзілоўскай «Зайздрошчу Чачэніі». Цяпер, дастаткова даць «НН» яшчэ адно папярэджаньне на працягу году, і газэта можа быць зачыненая.

Мы будзем абскарджваць вынесенае папярэджаньне ў судзе.

З пункту гледжаньня сусьветнай практыкі, газэту тут нельга ні ў чым абвінавачваць ужо таму, што «Зайздрошчу Чачэніі» — гэта ліст чытача, надрукаваны ў адпаведнай рубрыцы. З пачатку году мы надрукавалі 62 лісты ў рэдакцыю і водгукі. У іх выказваюцца розныя, часам супрацьлеглыя думкі, ідуць спрэчкі.

З пункту гледжаньня зьместу, у лісьце няма ніякіх нялюдзкіх заклікаў. Гэта енк болю, крык роспачы жанчыны, якая болей ня можа трываць таго жорсткага нацыянальнага і сацыяльнага прэсу, пад якім апынуліся шчырыя беларусы ў сёньняшняй псэўдабеларускай дзяржаве.

Што да прэцэдэнтаў. Праваслаўнае выдавецтва публікуе шматкроць большым, чым у «НН», накладам кнігу з заклікам «Бі жыдоў» — Дзяржкамдрук не дае выдавецтву папярэджаньня, бо нібыта публікацыя мае навуковы характар. Прафэсар Ігнацішчаў у газэце «Рэспубліка» сьцьвярджае, што беларусы як нацыя не існуюць, што гэта «тэрытарыяльная супольнасьць» у складзе адзінага «рускага» народу, кшталту мэкленбурцаў у складзе нацыі нямецкай — такое адмаўленьне беларусам проста ў праве на існаваньне таксама ня лічыцца злачынствам. Дзяржаўная тэлевізія, урадавыя і наўрадавыя газэты на расейскай мове ўстаўляюць беларускія словы ў наўмысна зьдзеклівым кантэксьце — гэта ані не клапоціць наглядчыя органы. Што гэта, калі не палітыка падвойных стандартаў?

Беларусам адмаўляюць у праве на вастрыню ацэнак найперш дзеля рэалізацыі даўняй стратэгіі: зьвядзеньня беларускае думкі, слова, культуры да ідыёцкай усімзадаволенасьці, убогага шаблёну, вітрыны з арнамэнтам, пазбаўленай жывога цела. «НН» — гэта ня тая зацюканая беспэрспэктыўная беларушчына, якая адзіна задавальняе праціўнікаў умацаваньня беларускай дзяржаўнасьці. Вастрыня ж думак нашых чытачоў не прытупіцца, пакуль ня выпаўняцца запаветныя памкненьні незалежнага беларускага грамадзтва, пакуль ня зьнікне адкрыты ці старанна хаваны за паперовай роўнасьцю нацыянальны і сацыяльны прыгнёт.

У 1998 годзе «НН» ужо абскардзіла адно папярэджаньне Дзяржкамдруку і перамагла ў судзе, абараніўшы сваё права выдавацца клясычным правапісам. І зараз будзем абскарджваць, абараняючы права нашых чытачоў выказваць свае думкі ў газэце. Будзем трымацца свайго.

Рэдакцыя

# ЛЕНІН І ЦАРКВА

Крычаўская сацыялягічная лябараторыя «Позірк» правяла ў сакавіку сацыялягічнае дасьледаваньне стаўленьня жыхароў Крычава да рэлігіі. Усяго былі апытаныя 114 чалавек. 83% назвалі сябе праваслаўнымі. Але пры гэтым толькі 67% заявілі, што вераць у Бога, і толькі 18% апытаных наведваюць царквы хаця б раз у месяц. Відаць, сапраўды, праслойка праваслаўных атэістаў у нас немалая.

Ня вераць у Бога зусім 17%. Каля 10% апытаных мелі цяжкасьці з адказамі на ўсе пытаньні. Каталікоў у Крычаве, як і ва ўсёй Усходняй Беларусі, зусім мала (менш за 2%), пратэстантаў яшчэ меней (менш за 1%). Столькі сама, як ня дзіўна, атэістаў. Цікава, што пераважная бальшасьць тых, хто ня верыць у Бога, не атаесамляюць сябе і з атэістамі.

У царкву большасьць людзей ходзяць раз на год (40% апытаных). Часта (то бо часьцей, чым раз на месяц — толькі 7%). Зусім ніколі не бывае ў царкве 22% апытаных.

Асобна людзям задавалі пытаньне, як яны ставяцца да таго, што помнік Леніну стаіць у самым цэнтры, суседнічаючы з праваслаўнай царквой. Аказалася, што адмоўна ставяцца да такога суседзтва 37% апытаных, станоўча — 14%, а абыякава — 40%.

Б.Т.


Фота Анатоля Кляшчука

## У глыбінцы 25 сакавіка не патрэбна

Астравецкія ўлады адмовілі ў правядзеньні пікету 25 сакавіка на плошчы Леніна. Маўляў, жыхары раёну й так нядрэнна арыентуюцца ў тым, што і як адбываецца. Заяўку на правядзеньне акцыі яшчэ на пачатку месяца ў выканкам падалі прадстаўнікі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Іван Крук і Мікалай Уласевіч. На падставе якога закону можна ў Беларусі забараніць пікет, таго не паведамілі.

## Прафсаюз — мёртвы груз

На Смаргоншчыне настаўнікам затрымліваюць заробак. Дык многія, у прыватнасьці з Крэўскай і Сольскай школаў, у знак пратэсту падалі заявы на выхад з прафсаюзу.

Мар'ян Вянгроўскі, Астравец

ПАЗЫТЫВЫ

# ПУШЧЫ І РУДНІ

***Шматвэктарнасьць беларускай палітыкі дапоўнілася яшчэ адным накірункам. Начальства паглядзела долу. Мінулы тыдзень стаў сьвятам беларускай горнай справы.***

Сталыя чытачы «НН», напэўна, памятаюць нумар, дзе распавядалася пра старажытныя капальні крамяню ў Беларусі. Так, беларусы пасьпяхова корпаюцца ў глыбінях сваёй зямлі ужо не адну тысячу гадоў.

Спачатку крамень, потым балотная руда, зь якой выраблялі падобнае да губкі крычнае жалеза; вохра дзеля фарбаваньня кажухоў і тварaў на выпадак узброеных міжплямэнных канфліктаў. Потым зьявіліся шкляныя гуты, дзеля наяўнасьці добрага пяску й вапняку.

Па вайне сьвідраваньне зямлі набыло плянавы характар і дало добры плён. Да сёньня разьведана больш за 4000 радовішчаў 30 розных карысных выкапняў. Запасы некаторых вельмі вялікія. Сталыя чытачы «НН» добра памятаюць таксама Лёнданскую лекцыю Прэзыдэнта БНР доктара Абрамчыка. Мазырскае, Давыдаўскае і Старобінскае радовішчы, напрыклад, утрымліваюць 22 млрд. тонаў солі. Як пагрузіць яе ў цягнік, дык той цягнік дзявяноста разоў абкруціцца кругом Зямлі. Але спачатку яе трэба адтуль дастаць, а на гэта патрэбна даляраў столькі, што калі іх у радок пакласьці, дык ці не даўжэйшы ён будзе за той цягнік.

Апошнім часам узьняўся шум вакол мінэральнай вады. Сапраўды, яе пад намі багата, цэлае мора. Знайшлі 63 крыніцы з запасам 15572 кубамэтры ў суткі. Ёсьць і вельмі насычаныя мінэраламі расолы. Зь іх збіраюцца дабываць рэдкія рэчывы, бор і ёд, каб потым прадаваць за мяжу. Даставаць можна 160 т брому і 1,2 т ёду штогод. Ніхто, праўда, ня кажа, што рабіць з расолам, які будзе заставацца.

Знойдзеныя ў нас гэтаксама буры вугаль і сланец, але нізкаякасныя. З вугалю тога атрымаецца хіба што брыкет, калі зьмяшаць яго з торфам. Альбо трэба рабіць ягоную хімічную перапрацоўку, а гэта зноў — інвэстыцыі.

Наш край пэрспэктыўны на жалеза і каляровыя мэталы, бурштын, тытан. Пад Налібоцкай пушчай ёсьць жалеза, і вельмі многа, і ня надта глыбака ляжыць. Але каб яго дастаць, трэба тую пушчу сьпілаваць, выкапаць кар'ер велічынёй з Арызонскі кратэр, пабудаваць абагачальны камбінат — найбуйнейшы ў Эўропе, чыгунку, спусьціць на камбінат усю ваду зь Нёмна і рабіць файны акатыш, зь якога немцы маглі б выплаўляць сталь. Добра, але пушчы шкада.

Як мне падаецца, уся гэтая мітусьня з карыснымі выкапнямі ёсьць водгукам аднаго пытаньня: адкуль узяць грошай, каб заткнуць нечым зяпу ўсім: і выбарцам, і бунтаўнікам.

Без узмацненьня гвалту над навакольным асяродзьдзем магчымы экспарт граніту, вапняку, мяргэлю і чыстай крэйды, цагельнае і ганчарнае гліны. Бяз шкоды экалягічнай абстаноўцы можна прадаць за мяжу 100 млн.т торфу і 1 мільярд кубамэтраў сапрапелю. Экспарт высакаякаснай мінэральнай вады можа складаць да 300 м³/сут.

Калі ж зірнуць на праблему шырэй, то выявіцца вельмі важны выбар: Беларусь пляне быць падобнай да Анголы ці да Чэхіі? Мець багатую прыроду, канечне, выгадна. Але гандаль толькі тым, што Бог даў, нейкі сумны, накшталт таго, як бедны чалавек нырку прадае.

Да таго ж апошнім часам зьявіліся дзьве вельмі дрэнныя тэндэнцыі: скарачэньне аб'ёму вывазу галоўных тавараў беларускага экспарту і сыравінная накіраванасьць экспарту за межы СНГ. Туды ідзе пад 100% калійных угнаеньняў, блізка 90% неапрацаванага лесу, каля 80% чорных мэталаў. Адначасова за межы СНГ экспартавана менш за 10% станкоў, грузавых аўтамабіляў, халадзільнікаў.

А ўмеем жа і інакш. Унікальную ўстаноўку па выпрацоўцы звышчыстага крэмнію з адкідаў хімічнай вытворчасьці купілі за паўмільёна даляраў інвэстары з Беларусі ў маскоўскім НДІ хімічных тэхналёгіяў, маючы на мэце запусьціць новую вытворчасьць на наваполацкім заводзе "Вымяральнік", каб рабіць крэмній, удвая таньнейшы, чым на сусьветным рынку.

Пісьменна і зь мінімальным засьмечваньнем уласнай хаты здабываць кампанэнты тэхналёгіяў XXI ст. трэба вучыцца. Перапрацаваць карысныя выкапні самім і выгадна прадаць за сапраўдныя грошы на хапок не атрымаецца. Патрэбная сыстэма, час і вольныя людзі.

Міхал Залескі

ЛІСТЫ Ў РЭДАКЦЫЮ

## Маральна-анальная цэнзура

*Кіраўніцтва Гарадзенскага ўнівэрсытэту палічыла, што сярод карыстальнікаў Інтэрнэту праз унівэрсытэцкі сэрвэр зашмат эратаманаў. Таму цяпер тут можна атрымаць інфармацыю з Інтэрнэту, толькі прапушчаную праз спэцыяльны фільтар на сэрвэры. І гэты фільтар не прапускае ключавых словаў, якія адміністрацыя ўнівэрсытэту залічыла да эратычнай тэрміналёгіі. З гэтае нагоды вучоныя акадэмічнага Інстытуту біяхіміі, якія карыстаюцца Інтэрнэтам таксама праз сэрвэр Гарадзенскага ўнівэрсытэту, маюць значныя турботы. Напрыклад, немагчыма без папярэдняга адключэньня фільтру атрымаць інфармацыю, якая тычыцца атэрасклерозу ці аналітычнай біяхіміі, таму што яны ўтрымліваюць у сваім складзе падцэнзурныя спалучэньні літар (athEROSclerosis, ANALitycal biochemistry). Раю аб'явіць конкурс сярод чытачоў «НН»: хто прапануе большую колькасьць словаў, якія асядуць на фільтры сэрвэра ГрДУ (напрыклад, сэкстэт, член-карэспандэнт і інш.). Па ўзнагароды зьвяртацца ў рэктарат унівэрсытэту ў Горадні.*

Г.А., Горадня

## Пачысьціці Кобрынь

*Хачу паведаміць Вам пра падзеі, сьведкам якіх я быў. Гаворка ідзе аб антыфашыстоўскай акцыі, якую 12 сакавіка правёў у Кобрыні берасьцейскі аддзел «Краю» разам з кобрыньскімі сябрамі.*

*Акцыю распачалі адразу з вакзалу. Горад зьдзівіў багацьцем фашыстоўскае прапаганды, якая сустракалася літаральна на кожным кроку. Брыдоту зрывалі ды замалёўвалі. Краёўцы накіраваліся да рэгулярнага месца збору «акадэмікаў» з РНЕ. Па дарозе хлопцы раздавалі свае праспэкты й буклеты аб гісторыі Беларусі (асабліва пра тое, чым «праславіўся» ў Беларусі Сувораў, культ якога ў Кобрыні не ў апошнюю чаргу паўплываў на пладавітасьць мясцовага РНЕ); аб дзейнасьці сваёй арганізацыі, клеілі антыфашыстоўскія ўлёткі. Многія з удзельнікаў акцыі былі ў вайсковай форме, баркашоўцы, здалёк убачыўшы іх, пасьпелі ўцячы. Лавіць іх ня сталі... Пакуль.*

*Потым краёўцы вырашылі правесьці антыфашыцкі «лікбез» сярод жыхароў мястэчка. Таму яны пайшлі праз увесь горад, распаўсюджваючы шмат літаратуры антыбаркашоўскага зьместу.*

*На пытаньне аднаго зь мясцовых жыхароў «А дзе тут фашысты?», адзін з краёўцаў адказаў: «А РНЕ хіба не фашысты?». «Гэтыя? Гэтыя горшыя за фашыстаў!» — удакладніў кобрынец.*

*Калі зьбіраліся ад'яжджаць, на вакзале да хлопцаў дачапіліся-такі міліцыянты, але, пагаманіўшы з адным з удзельнікаў акцыі й атрымаўшы тузін улётак, пайшлі чытаць.*

Волат з-пад Берасьця

## Усё пайшло, як зь ветрам

*Адзін віленскі калега, цяпер лекар у Аўстраліі, піша: «1939 год — гэта страта ўсяго людзкага ды нацыянальнага. Людзі — музэй — мова». Мае на думцы Беларускі Музэй імя Івана Луцкевіча. Усё пайшло, як зь ветрам. І памяць пра нашу сталічную Вільню заціраюць нават свае! Беларускі Музэй імя Івана Луц-*

*кевіча граў важную ролю ў жыцьці беларускага студэнцтва — грамадзтва. Уваходзілася ў музэй, як у сьвятыню мудрасьці, сьвятыню гісторыі Беларусі. Там адбываліся дні, як сказаць, наведваньня музэю грамадзянамі Вільні. Беларускія студэнты былі праваднікамі. Мая старэйшая сястра бывала адным з такіх праваднікоў. Я слухала яе й думала: «Скуль гэта яна ўсё ведае?..» Так бывала калісьці — да 1939 году...*

**Раіса Жук-Грышкевіч, Таронта**

## Вынікі першага этапу праекту «Ганьба»

*Сёньняшнія беларускія судзьдзі напэўна ўсё добра разумеюць. Разумеюць і незаконнасьць, і нявечнасьць таго, што робіцца, але ўпарта працягваюць садзіць і штрафаваць, штрафаваць і садзіць. Забываюцца таварышы судзьдзі, што ім, у адрозьненьне ад іх калег зь міліцыі, ніхто не паверыць, калі яны пасьля скажуць, што дзейнічалі паводле загаду.*

*З гэтай нагоды група беларусаў з вольнага сьвету, засмучаных беззаконьнем у судовай сыстэме Беларусі, правяла неафіцыйнае спаборніцтва сярод судзьдзяў, якія ў 1999 годзе прысудзілі сваім суродзічам кары з палітычных прычынаў. У выніку 12 найбольш актыўных судзьдзяў атрымаюць «Ганебныя Граматы» з дэталямі іх рэпрэсіўных вэрдыктаў. «Ганебныя Граматы» выкладзеныя ў Інтэрнэце на сайце www.draniki.com/ganba для ўсіх ахвотных зь імі азнаёміцца.*

*Неўзабаве такімі ж граматамі будуць узнагароджаны і тыя прадстаўнікі вэртыкалі і сілавых структураў, якія найбольш зацята змагаюцца зь беларускім нацыянальным адраджэньнем, нішчачы Дзяржаўнасьць, Мову і Культуру Беларускага Народу. Мы перакананыя, што гэтыя асобы ў хуткім часе панясуць крымінальную адказнасьць. Мы будзем мець свой Нюрнбэрг!*

**Каардынатары праекту «Ганьба» Андрэй Дубянецкі, Раман Кардонскі (Паўночная Амэрыка) www.draniki.com/ganba**

## Сумнае

*Хачу распавесьці вам і ўсім чытачам надта сумны выпадак з майго жыцьця. Здарылася гэта каля месяца таму. У паралельным класе вучыцца адна вельмі сьціплая дзяўчына. Завуць яе Гурноўская Ксенія. Мне карцела пазнаёміцца зь ёю, але я саромеўся падысьці і загаварыць. Аднойчы я ўсё ж падышоў і загаварыў. Гаварылі пра ўсякія неразумныя рэчы... Я прапанаваў ёй пайсьці на канцэрт «Народнага альбому». У яе вачах засьвяцілася радасьць, яна сказала, што ёй вельмі прыемная гэтая прапанова. Ксенія сказала, што падумае.*

*Назаўтра я, як шалёны, аб'ехаў шмат касаў, каб нарэшце купіць найлепшыя квіткі. Але мяне чакала вялікае расчараваньне: яна адмовілася. Я вельмі хацеў зразумець, у чым рэч. Усякі раз пры сустрэчы я распытваў яе, але яна заставалася замкнёная... Аднак аднойчы яна ня вытрымала і расказала. Рэч аказалася ў яе бацьках, у іх «поглядах на жыцьцё». Яны не дазваляюць Ксені хадзіць у тэатры, гуляць з хлопцамі, карыстацца касмэтыкай і г.д. Я быў разззлаваны.*

*У суботу, 26 лютага, быў цудоўны вечар, які я правёў у канцэртнай залі, слухаючы «NA». Скандаваў «Жыве Беларусь!» сам адзін і сумна пазіраў на пустое месца побач з сабою...*

*На жаль, у наш час засталіся такія суровыя дыктатарскія ўмовы жыцьця, што часам хочацца зьбегчы ад усяго гэтага і ніколі не вяртацца...*

**Максім Іванцоў, Менск**



Фота Сяргея Брушка

# Абыякавасьць Фэміды

***Два тыдні таму мы пісалі пра пачатак працэсу па спазыску айца Івана Спасюка да япіскапа Гарадзенскага Арцёмія. Цяпер працэс скончыўся. Вось амаль стэнаграма з гэтага суду.***

**Г.Бараноўская, юрысконсульт епархіяльнай управы:**

— Управа не зьяўляецца юрыдычнай асобай, таму прашу адмовіць у спазыску, як у пададзеным да неадпаведнага адказчыка.

**М.Сільчанка, прадстаўнік япіскапа:**

— Прашу далучыць да справы характарыстыкі айца Івана, рапарты япіскапу: «сумнеўнае паступленьне грошай на рахунак і сумнеўнае выдаткаваньне». Любы першакурсьнік зразумеў бы, што былі ў япіскапа падставы, каб зьвярнуцца ў 6-ы аддзел па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю. Паведамленьне з кансысторыі БАПЦ. Вось тут тэкст допыту І.Спасюка пры рукапалажэньні ў сьвятары, ягоны подпіс на клятве. Тут матэрыялы аб яго дачыненьнях з Рыжым — улётачкі і гэтак далей.

**М.Аксаміт, прадстаўнік Спасюка:**

— Матэрыялы аб адносінах з аўтакефальнай царквой не ўваходзяць у абсяг судовых спрэчак.

**Судзьдзя І.Грышкевіч:**

— Усе дадатковыя матэрыялы далучаныя да справы, зараз бакам трэба зь імі азнаёміцца. На жаль, ксэраксу ў нас няма, каб зрабіць асобныя копіі. Перапынак.

Першаму пасьля перапынку далі слова сьвятару, які змагаўся за свае гонар і годнасьць. І.Спасюк узгадаў першых хрысьціянаў, Івана Залатавуснага, цытаваў пастанову Картагенскага сабору. 15-е правіла паводле сабору — усе царкоўныя канфлікты вырашаць «сьмірэнча», самім. А яго, маўляў, абвясьцілі злачынцам, распаўсюдзілі хлусьню, выкінулі невінаватага з храму. І, атрымліваецца, што адказваць за гэта няма каму?

Вядома, што згодна з статутам РПЦ настаяцель не адказвае за царкоўную касу, — працягваў І.Спасюк. Але, як аказваецца, можна нават парушыць таямніцу споведзі перад прыняцьцем сану. Таямніцу пакаяньня — таксама. Калі чалавек раскаяўся — значыцца, яму даравалі. А тут, калі спатрэбілася, — адразу ў газэту. І «Наргазэта» напісала, што ў 94-м ён лаяўся ў слонімскім маршрутным аўтобусе. Але бацюшка адказвае, што ў яго ў тыя часы была і асабістая машына, і службовая, ды яшчэ два шафёры, таму ён аўтобусамі не карыстаўся.

Падсумоўваючы, І.Спасюк сказаў: царква ў сьвядомасьці людзей усё болей ператвараецца ва ўстанову. Хаця пры любой уладзе служэньне павінна быць пакутніцтвам. Хрыста таксама называлі ілжэпастырам. Хаця ягоныя — І.Спасюка — пакуты, канечне, — непараўнальныя. Але сьвятар, каб даказаць, што яго абылгалі, мусіў зьвярнуцца ў сьвецкі суд.

**В.Шчукін (прадстаўнік Спасюка ў судзе):**

— Спадзяюся, што высокая пасада адказчыка не засмуціць суд. Крымінальная справа спынена, нічога не даказана. Што да дробнага хуліганства ў 94-м годзе, нават калі б яно й было, дык праз год паводле закону яно касуецца. Прычым у газэтным артыкуле пісалася пра яго як пра сьвятара, хаця ў 94-м годзе Спасюк ім яшчэ ня быў.

**М.Аксаміт:**

— У суседнім Ваўкавыску чатыры сьвятары, а на могілках парадку, які навёў на вясковых могілках у сябе айцец Іван, няма. Ён пачаў зьбіраць грошы на храм, і гэта ж яму і пашкодзіла. Сутнасьць канфлікту ў тым, што Спасюк прапанаваў епархіяльнай управе зьнізіць тарыфы на царкоўныя паслугі, паколькі людзі на вёсцы зусім зьбяднелі. Гэта было ўспрынята як бунт. Ён папрасіў вызваліць прыход ад узносаў у япархію, каб пабудаваць царкву. Адмовіўся пералічаць грошы ў Горадню.

У Ваўкавыску, дзе я жыву, грошы на царкву пачалі зьбіраць яшчэ ў 1986 годзе. Прадпрыемствы ў нас былі багатыя, грошы сабралі вялікія, але царква дагэтуль не пабудаваная — і ніякай справаздачы. Калі быў «паўлаўскі» абмен 50-ці і 100-рублёвых купюраў, мясцовы сьвятар прынёс чамадан грошай — 64 тысячы рублёў — і ня здолеў патлумачыць камісіі паходжаньне гэтых грошай. У 91-м прыхаджане зьвярнуліся да Філарэта, каб была распачата крымінальная справа. Але ён прыехаў і дазволіў будаваць царкву ў іншым месцы. А той сьвятар трапіў у сакратары да япіскапа, і ягоны подпіс стаіць пад рапартам супраць Спасюка.

Спонсар грошы даў на канкрэтную царкву, а ў Спасюка патрабавалі іх аддаць у япархію. Крымінальная справа была распачатая па факце недахопу грошай. І ў рэвізійную камісію ўлучылі касіра Лізункову, каб яна сама сябе правярала. Гэта сацыяльны заказ. Мэта — зьнішчыць Спасюка. Лізунова працавала бугальтарам, і агульны сход калгасьнікаў запатрабаваў прыбраць яе з бугальтэрыі. Прыхаджане — супраць яе. Тады яна пажадала стаць касіркай у новым прыходзе. Аказалася, што нельга, вазьміце тады мужа, — просіць. Дарэчы, бацюшка жыве ў вайсковым гарадку ў трохпакаёвай непрыватызаванай кватэры, а яна будуе катэдж...

Япіскап усьведамляе віну, інакш сам бы прыйшоў у суд. Але ён паслаў замест сябе прафэсара. А каб меў рацыю, ня стаў бы шукаць абароны, — падсумаваў М.Аксаміт.

**Г.Бараноўская** пачала тлумачыць суду ўсякія філялягічныя тонкасьці, аналізуючы публікацыю супраць Спасюка ў «Гродненских епархиальных ведомостях». Каб пераканаць, што ўсё ў публікацыі — о'кей. Яна вельмі спасылалася на слоўнік Ожэгава, тым часам як супрацьлеглы бок з большым задавальненьнем цытаваў старарэжымны слоўнік Даля.

(Міжволі мне падумалася: калі ж у нашых судах будуць спасылацца на беларускія слоўнікі, а не на расейскія? Пакуль — надзеі ніякай).

**М.Сільчанка** нечакана распачаў таксама эвангельлем. Маўляў, каго не пушчаюць у дзьверы, і ён лезе праз плот, дык значыцца гэта — «вор». Далей ён сказаў аб прысяжным лісьце І.Спасюка часоў прыняцьця сану, паказаў фота з «ілжэпатрыярхам» Рыжым, у якога, маўляў, няма свайго прыходу нават. Сказаў пра «раскрутку ў прэсе» Спасюка. Перайшоўшы нават на беларускую мову, што ў нашым судзе недапушчальна (калі толькі па спэцыяльным хадайніцтве ня быў выкліканы перакладчык), працытаваў выкрываўчы ліст Беларускай аўтакефальнай царквы адносна Рыжага.

**І.Спасюк не ўстрымаўся ад рэплікі:**

— Маскоўскі патрыярхат, між іншым, не прызнае Беларускуай аўтакэфальнай, але паперы вось выкарыстоўваюць, калі трэба.

**М.Сільчанка:**

— Вы не маглі нават разабрацца, каму падаваць спазыск — разьліковаму рахунку, які на блянку быў? Скажыце дзякуй, што мы яшчэ на суд хадзілі. Вы заблыталіся ў трох соснах.

**І.Спасюк:**

— Я паведаміў япіскапу, што з 12 сакавіка 1999 г. знаходжуся пад юрысдыкцыяй Беларускай народнай праваслаўнай царквы, а не аўтакефальнай. А што яе не прызнаюць, дык у сьвеце многа такіх цэркваў. РПЦ не прызнае, напрыклад, расейскай замежнай...

**М.Аксаміт:**

— Наконт трох соснаў. Віна ёсьць і ваша. Раз у залі прадстаўнік епархіяльнай управы, значыцца, ён меў права тут знаходзіцца і яе прадстаўляць.

**В.Шчукін:**

— Тут не царкоўны суд, каб абмяркоўваць, якая царква правільная. Спасюк вымушаны быў зьвярнуцца да Рыжага. Гэта царква, тут у адзіночку нельга. Што да прафэсараў, дык у мяне трапятаньня перад імі няма. Вось заключэньне экспэртаў наконт таго, каб адмовіць прыходу Спасюка ў рэгістрацыі. Там прафэсары і дацэнты падпісаліся. І што яны пішуць, на што спасылаюцца? Адмовіць — на падставе разыходжаньняў паміж расейскай царквой і беларускай. Гэта — унутраныя пытаньні веры. Значыцца, яны ўмешваюцца ў царкоўныя справы. А наконт зьнявагі Спасюка, дык трэба заўжды памятаць аб прэзумпцыі пачцівасьці, калі даказаць ня можаце...

Пра галоўнае ж мала што казалі.

Судзьдзя, уважліва выслухаўшы ўсе довады, пакінуў залю. Хвілінаў праз 15 ён вярнуўся і ўрачыста паведаміў: у прыняцьці спазыску ад І.Спасюка адносна абразы гонару і годнасьці — адмовіць.

— Праўды няма! — не ўстрымалася адна з прыхаджанак, якія знаходзіліся на судзе.

Кіраваны журналісцкай цікаўнасьцю, я зазірнуў на стол судзьдзі, які пэрыядычна разглядаў штосьці перад сабой. На стале, які мае борцік, стаяў стары савецкі дынамік з абарванымі дратамі (можа, для сэлектарнай сувязі?), на якім была чырвоная прылепка з надпісам «СТОП СНІД».

**Сяргей Астраўцоў**

спорт

# ЛІТОЎСКАЯ РУКА

Пару гадоў таму беларуская моладзевая зборная па баскетболе выйграла чэмпіянат Эўропы. Усім здавалася, што вось ён — зорны час беларускага баскету. Беларусь проста ашалела ад думкі, што мы неўзабаве будзем размазваць па пляцоўцы розныя там *dream team*-ы. Але ўсё павярнулася зусім ня тым бокам.

...Калі Беларусь ганебна прайгравала ў менскім Палацы спорту эстонскай зборнай з розьніцай 15 ачкоў, тамтая перамога на першынстве Эўропы здавалася сном. Калі беларусы выходзілі на пляцоўку перад хатнімі сустрэчамі, некаторым заўзятарам здавалася, што перад гульнёй беларускія джорданы не адныя суткі кілбасілі слынны беларускі напой «Крыжачок». І сапраўды, якія там перамогі, калі пад час гульні беларусы толькі і рабілі, што бралі тайм-аўты ды жлукцілі вадзічку. Сушнячок...

У зборнай трэ было нешта мяняць. Гэта разумелі ўсе. Але ніхто не разумеў, што ды як мяняць. Зьмена спартовых майткоў, відавочна, ні да чога не прывяляла б. Таму «шышкі» айчыннага баскетболу, памазгаваўшы, прыдумалі — стварыць базу для нацыянальнай дружыны. Гэтай базай павінен быў стаць наш беларускі чэмпіён — «Горадня-93». Але адразу ж агаліўся іншы трабл: прыстойная каманда, каб расьці, мусіць гуляць у прыстойным турніры. Чэмпіянат Беларусі, пры ўсёй яго сіле, ня можа й блізка насіць гордае найменьне «прыстойны турнір». Заставалася адзінае выйсьце — паўночнаэўрапейская баскетбольная ліга.

Прашчаміцца ў гэтыя салідныя спаборніцтвы — залатая мара нашых флагманаў, бо, акрамя моцных супернікаў, арганізатары забясьпечваюць клюбы баблом на пераезды ды хаўчыкам. Халява вабіць рускую душу... Толькі вось да апошняга часу ў лізе адмахваліся ад дэлегацыяў зь Беларусі.

І не сьвяціла б нашай камандзе ніякая ПЭБЛ, калі б не знайшоўся добры жмудзін — камісіянэр лігі Шарунас Марчулёніс. Зрабіўшы колькі візытаў на Гарадзеншчыну, Шарунас зазначыў, што тамтэйшы Лядовы палац — ідэальнае месца для правядзеньня матчаў ПЭБЛу (праўда, спачатку трэ закупіць спэцпакрыцьцё, бо не гуляць жа на лёдзе). А пасьля прагучала радасная для нас фраза: «Каманда зь Беларусі стала рэальным кандыдатам на ўступленьне ў лігу». Дык во, Горадню незабавам мо будуць па «эўраспорце» паказваць.

**Богусь Біятлянёнак**

дзе варта быць

## У Плешчаніцах і ў «Дзе-Я?»

У Плешчаніцах прайшоў вечар памяці земляка, кіраўніка менскага тэатру «Дзе-Я?» Міколы Трухана, які памёр год таму ад разрыву сэрца на фэстывалі «Маладэчанская сакавіца». З 28 па 31 сакавіка тэатар «Дзе-Я?» апошні раз пакажа спэктаклі, якія паставіў Трухан: «Круці...» і «Здань» паводле п'есаў Францішка Аляхновіча, «Імжу» паводле Янаша Кофты і «Здань» паводле Шэксьпіра. Новы дырэктар вырашыў, што п'есы непрыбытковыя і трэба іх здымаць.

## Бокс

Беларуская асацыяцыя прафэсійнага спорту прадстаўляе міжнародны юнацкі турнір па боксу з удзелам камандаў Беларусі, Расеі, Украіны, Прыбалтыкі, Малдовы, Ізраілю. Біцца будуць у Рэспубліканскім інстытуце прафэсійнай адукацыі (Ваўпшасава 23) 27—30 сакавіка, пачынаючы з 12-й гадзіны.

## Мова, мода і свабода

У Доме дружбы праходзіць выстава францускай моды. На ёй можна пабачыць апошнія мадэлі славутых кутур'е, а таксама малюнкі беларускіх дзяцей на тэму «Мода ў XXI стагодзьдзі». Адмыслова на адкрыцьцё выставы з Парыжу прылятаў пасол Францыі Бэрнар Фас'е. «Бяз моды няма й мовы», —сказаў ён на адкрыцьці. На той самай выставе прадстаўленыя выказваньні 40 францускіх кутур'е пра свабоду. Выстава чынная да 30 сакавіка.

## Фота-момант

«Фатаграфія вырашальнага моманту: беларускі варыянт» — такую назву мае выстава 11 фотарэпартэраў і мастакоў, якая адчынілася ў галерэі візуальных мастацтваў «Nova». Аўтараў яднае пошук «вырашальнага моманту» ў жыцьці асобнага чалавека або ў грамадзкіх падзеях, у тым ліку ў маніфэстацыях дэмакратычнай апазыцыі. Усе фотаздымкі чорна-белыя.

## English Cinema

У кінатэатры «Піянэр» сёньня пачнецца рэтраспэктыва ангельскага сюррэалізму пад агульным назовам «Каралі і блазны». 27 сакавіка — «Сябры Пітэра» Кенэта Брана. 28-га — «Анёл» Ніла Джордана. 29-га — «Рычард III» Рычарда Лонкрэйна. 30-га — «Мая прыгожая пральня» Стывэна Фрырза (на ангельскай). 31-га — «Люстэркавая скура» Філіпа Рыдлі. Пачатак усіх стужак а 19-й. Бясплатна.

## Данута

У пятніцу 31 сакавіка а 18-й у тэатральнай залі Чырвонага касьцёла адбудзецца сустрэча з паэткай Данутай Бічэль-Загнетавай.

## Беларуска з Украіны

31 сакавіка ў Саюзе кампазытараў (пл.Свабоды 5) а 18-й адбудзецца творчая сустрэча з маладой беларускай паэткай Інай Снарскай з Палтавы, што ва Ўкраіне. У сустрэчы ўдзельнічаюць Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Вольга Іпатава. Сьпяваюць Валянціна Карэлікава ды Якаў Навуменка, а дзіцячы ансамбаль «Дударыкі» абяцае наладзіць імпэтныя скокі-граньне. Завадатар рандэву — Яўген Лецка.

## Шлях самурая

«Здаралася, адсечаная галава адлятала далёка. Таму лічылі, што лепш пакінуць крыху скуры, каб галава павісла на ёй і не пакацілася ў бок афіцыйных асобаў. Але ў цяперашні час лічаць, што лепш адсякчы галаву цалкам». Гэтая невялічкая цытата з кніга Ямамата Цуматома «Хакатурэ. Кніга самураяў» можа наўпрост стацца эпіграфам да фільму Такешы Кітана «Шлях самурая», які прэзэнтуюць 28 сакавіка ў сінэматэцы бібліятэкі Янкі Купалы (пакой 18). Пачатак а 18-й, уваход вольны.

## Міс Беларусі' 2000

У Менску абіраюць прыгажуняў — 28 сакавіка а 19-й у памяшканьні Тэатру музкамэдыі распачнецца нацыянальны конкурс «Міс Беларусі' 2000». 14 дзяўчат будуць красавацца ў вечаровых, маладзёвых, купальных ды нацыянальных (сапраўдных, з музэяў) строях. Калі арганізатары дамовяцца зь «Мілавіцай», дык красуні прадэманструюць нават фірмовую беларускую бялізну. Вызначыць Міс Беларусі надзвычай кампэтэнтнае журы, у склад якога ўваходзяць галоўны рэдактар «Советской Белоруссии» Павал Якубовіч ды галоўны бэпээсэмавец краіны Ўсевалад Янчэўскі.

## Крыўя

28 красавіка Беларускі Калегіюм, што месьціцца ў Купалаўскай бібліятэцы, ладзіць прэзэнтацыю новага нумару часопіса «Крыўя» з удзелам С.Санька і Т.Кашкурэвіча. Пачатак у 18.30.

## Вечарына Марачкіна

Беларускі паэтычны тэатар «Зьніч» запрашае на творчую вечарыну мастака Аляксея Марачкіна. Адбудзецца імпрэза 30 сакавіка а 18-й у тэатральнай залі Чырвонага касьцёла. Вас чакае адкрыцьцё мастацкай выставы, урывак са спэктаклю «Выгнаньне ў рай», літаратурна-паэтычныя творы Аляксея Марачкіна ў выкананьні самога аўтара, выступы паэтаў, бардаў, музыкаў, мастакоў.



**Алесь Кудрыцкі, Юрась Барысевіч**

БТ вачыма беларуса

# СУВОРЫЯ БУДНІ

Надыход юбілею беларускага паэта Францішка Багушэвіча БТ сустрэла паказам старога савецкага фільма пра расейскага генералісімуса Суворава. Пра захоп «Польшчы». А потым Сувораў выказвае жаданьне паехаць адпачыць у нейкае «Кобрино». А Багушэвіча адзначылі сьціплым выпускам «Роднага слова». На 20 хвілінаў.

Ня дзіва, што галоўнай падзеяй для БТ на тым тыдні стала «міна», якую нібыта падклалі на Макаёнка, 9 у аўторак. Калі браць палітычную вэрсію, дык акцыя з аднаго боку ўдалая — усе супрацоўнікі БТ апынуліся на вуліцы ды лішні раз задумаліся, дзе яны працуюць. З другога боку — ня вельмі плённая: вяшчаньне не перарывалася (бо ёсьць жа й комплекс на Камуністычнай, 6). Вось толькі праверылі, што «мінаў няма» нешта захутка, менш як за дзьве гадзіны. А там жа 17 паверхаў плюс 4 паверхі тэхнічнага комплексу. Мо, міна ўсё ж недзе засталася ляжаць?

У сувязі з гэтым узгадваецца адна троху падобная гісторыя. Неяк на БТ увесь час тэлефанаваў адзін вельмі незадаволены глядач ды абураўся якасьцю ды зьместам передачаў. Званіў, праўда, на нумар, які найчасьцей бачыў на экране — у рэклямную службу. Тамтэйшым жанчынам надакучыла адказваць за ўсіх, яны паскардзіліся свайму кіраўніку, а той — у КГБ. У выніку «няўдзячнага» гледача вылічылі ды засадзілі на 15 сутак. Каб адпачыў ад нялюбага тэлебачаньня. Усё слушна: «Не падабаецца — не глядзі!».

**Арцём Лук'яновіч**

# ВЭРТЫКАЛЬ І РОК

У чаргова раз канцэрт беларускіх рок-гуртоў у Магілёве не адбыўся. Ізноў прычыны палітычныя. Канцэрт быў заплянаваны на 24 сакавіка. Запрасілі «Новае Неба», «Плято» і «Зьніч». Рэкляма была добрая, і да ДК швейнікаў, дзе меркаваўся быць канцэрт, прыйшло каля паўтысячы маладых людзей. Але іх чакала расчараваньне. Рэч у тым, што да распаўсюджваньня квіткоў і запрашэньняў далучыліся тутэйшыя маладафронтаўцы, якія на адваротным баку квіткоў пісалі «Жыве Беларуская Народная Рэспубліка!». У выніку з органаў патэлефанавалі дырэктару ДК, і той забараніў канцэрт.

Гэта ўжо трэці выпадак, калі выступленьне Касі Камоцкай у горадзе на Дняпры забараняюць. А калі адзін яе канцэрт усё ж прайшоў, дырэктар кінатэатру, дзе гэта адбывалася, страціў працу. Ня любіць вэртыкаль беларускага року!

**Сымон Глазштэйн, Магілёў**



*У Расеі ўчора адбыліся дэмакратычныя прэзыдэнцкія выбары. Ішлі яны ва ўмовах няспыннай вайны ў Чачэніі і шавіністычнай гістэрыі ў сродках масавай інфармацыі. Паводле папярэдніх зьвестак, перамог наступнік, вызначаны Барысам Ельцыным, — Уладзімер Пуцін. Ён сабраў трохі больш за 50% галасоў. На другім месцы — камуніст Генадзь Зюганаў з 30%, на трэцім — дэмакрат Р.Яўлінскі — 6%.*

# ВЫБАР МІЖ ДЗЬВЮМА ГАЛОВАМІ АДНАГО АРЛА

Расея паспрабавала быць дэмакратычнай. Атрымалася кепска. Цяпер і "свабодныя" расейскія журналісты вымушаныя славасловіць сваіх цароў і баяраў. І ня зможа Расея існаваць у дэмакратычным стане, пакуль з галоваў яе насельнікаў ня выветрыцца дух імпэрскасьці. Гаворка тут ня йдзе пра Пуціных-Зюганавых ці іншых стырнавых. Гаворка пра расейца звычайнага, шараговага.

Людзі Расеі самі сабою ўжо й ня здольныя заўважаць ступень гэтай сваёй хваробы. А чалавеку з боку яна кідаецца ў вочы амаль ці не пры кожным кантакце з расейцам. Вось багатая газэта "Новые известия" падаравала малым дзецям чачэнскіх уцекачоў адпачынак на Чорным моры. Рассаджваюць у аўтобусы і абураюцца: "Гэта ж трэба! Ніводзін зь дзяцей ня ведае расейскай мовы!" На думку прадстаўнікоў даволі прагрэсіўнай газэты, шасьцігадовае чачэнскае дзіця абавязана ведаць расейскую мову.

Вось вядомы пісьменьнік-гумарыст М.Задорнаў, гастралюючы ў Менску, завітаў у "Макдональдз" падсілкавацца і ўбачыў там на цэньніку слова "чызбургер", натуральна напісанае зь беларускім "Ы". Але чалавеку не прыйшло да галавы, што слова можа быць напісанае не па-расейску. І цяпер ці не на кожным з сваіх выступленьняў ён сьмяецца з таго, як беларусы ня ўмеюць пісаць: ха-ха, "чЫзбургер".

Або расейскі радыёжурналіст распавядае пра сьвяткаваньне камуністамі дня нараджэньня Леніна. Перадаючы словы Зюганава, журналіст хоча выказаць сваю нязгоду зь імі. І нагадвае слухачам пра тое, як Ленін гандляваў "исконно русскими землями", падпісваючы "Брестский мир". Журналісту й няўцям, што ёсьць Беларусь, якой і гандлявалі. У маштабах вялікай Расеі яму няма справы да пачуцьцяў нейкіх там беларусаў, як і чачэнцаў ці ўдмуртаў.

Больш за тое, нават гэтыя пачуцьці расеец трактуе на прыемны для сябе лад, яму хочацца, каб усе гэтыя "малыя народы", на чыіх землях ён пануе, былі ўдзячныя яму. І ствараецца чарговы міт — пра дабрачыннасьць заваёўніцкай дзейнасьці Расеі, пра тое, што народы толькі і чакалі "вызваленчага" прышэсьця расейскіх войскаў і сустракалі Ермака, Суворава і г.д. хлебам-сольлю з мокрымі ад удзячнасьці вачыма. Што, абласканыя Расеяй, яны хутка разьвілі свае культуру, прамысловасьць, народную гаспадарку, мастацтва. Маўляў, без Расеі нічога гэтага не было б. Было б ці не было — ня будзем спрачацца. Але ж як адплацілі за «вызваленьне» калянізаваныя народы! Якуцкае золата і алмазы, чачэнская нафта, крымскія ўзьбярэжжы, карэльскія лясы, чукоцкія цюлені і каляровыя мэталы, мардоўскі мёд, эвэнкійская пушніна — усё гэта зьнікала ў чэраве Расеі, пераважна за адну плату — гарэлку. А хто сумняваўся ў шчодрасьці вызваліцеляў, дэпартавалі — як крымскіх татараў, карачаеўцаў, чаркесаў, балкарцаў, інгушоў, чачэнцаў... Што мы ведаем пра чукчаў, акрамя зьняважлівых показак? Магчыма, сапраўды Расеі карэла-фіны? Ці іжорцы? Ці нанайцы? Ці вэпсы, якіх засталося ня болей за сотню і якія так і не змаглі пад апякунствам Расеі стварыць сваёй пісьмовасьці?

Зьвесткі перапісаў: у 1929 годзе на абсягах Расейскай фэдэрацыі жыла 191 народнасьць, у 1979 годзе іх было ўжо 132. Удзячныя Расеі народы сыходзяць у нябыт. Застаюцца наўдзячныя. Яны хочуць волі. І яны яе здабудуць. Наступны перапіс — у наступным годзе.

**Міхась Булавацкі, Магілёў**

# САЛІДАРНАСЬЦЬ

Кіраўнікі парлямэнтаў краінаў Цэнтральнай Эўропы – Альбаніі, Аўстрыі, Босьніі і Герцагавіны, Грэцыі, Чэскай Рэспублікі, Вугоршчыны, Італіі, Македоніі, Малдовы, Польшчы, Румыніі, Славаччыны, Украіны, якія бяруць удзел у канфэрэнцыі "Цэнтральнаэўрапейская ініцыятыва", што адбываецца ў Варшаве, выступілі з заявай з нагоды падзеяў у Беларусі 25 сакавіка. У заяве выказваецца падтрымка дзеяньням дэмакратычных сілаў Беларусі ў іх барацьбе за незалежнасьць сваёй краіны. Кіраўнікі парлямэнтаў краінаў Цэнтральнай Эўропы асудзілі беларускія ўлады за парушэньні правоў чалавека і выказалі салідарнасьць з тымі сіламі, якія спрабуюць вярнуць Беларусь на шлях дэмакратычнага разьвіцьця і робяць усё, каб Беларусь уступіла ў цывілізаваную эўрапейскую супольнасьць. Эўрапейскія палітыкі ў заяве жадаюць беларускаму народу асэнсаваньне сваёй адказнасьці за будучыню сваёй дзяржавы і посьпехаў у пабудове адкрытага дэмакратычнага грамадзтва.

**А.К.**

# ЭСТОНСКІ ДОСЬВЕД

***Беларускі Дзень Волі — гэта ня толькі дзень радасьці ўспамінаў пра аднаўленьне дзяржаўнае незалежнасьці, але й горычы ад яе страты. У 1918 годзе паўстаньню новых незалежных дзяржаваў на захадзе колішняй Расейскай імпэрыі паспрыяла змаганьне Нямеччыны й маладой "Рэспублікі саветаў", сутыкненьне якіх давала магчымасьць маладым нацыянальным рухам браць уладу ў свае рукі. Нам не пашанцавала. Але пашанцавала суседзям. У міжваенным часе на поўнач ад падзеленай на дзьве палове Беларусі стварала свой дабрабыт Эстонія. Пра досьвед незалежнасьці ў міжваенны й цяперашні пэрыяд «Нашай Ніве» і сябрам міжнароднае камісіі «Маладога Фронту» распавёў генэральны консул Эстоніі Янус Вару.***

**«НН»: Як паўстаў і разьвіваўся эстонскі нацыянальны рух?**

**Янус Вару:** Падваліны для фармаваньня эстонскае нацыі былі закладзеныя яшчэ ў пачатку XIX ст. разам з скасаваньнем прыгону. У другой палове мінулага стагодзьдзя канчаткова сфармавалася эстонская літаратурная мова, а ў 1880 годзе была зафіксаваная 100-адсоткавая пісьменнасьць жыхарства Эстляндыі. Але распачатая неўзабаве за Аляксандра III русіфікацыя зьнізіла гэты паказьнік на 10%. Да 1920-х у Эстоніі сфармаваліся ўсе перадумовы для паўстаньня нацыянальнае дзяржавы. Паспрыяла й Лютаўская рэвалюцыя 1917 году. Асноваю для стварэньня эстонскае дзяржавы сталі ідэі амэрыканскага прэзыдэнта Вудра Ўілсана аб праве нацыяў на самавызначэньне. 8 красавіка 1917 году адбылася 40-тысячная дэманстрацыя эстонцаў у Петраградзе, а ўжо 12 красавіка Часовы ўрад Расейскае Рэспублікі прымае Закон аб Земскай Радзе — часовым органе самакіраваньня Эстоніі. 28 лістапада 1917 году Земская Рада сталася найвышэйшым заканадаўчым органам краю. На той час эстонцы не спадзяваліся на незалежнасьць, нас задавальняла б краёвая аўтаномія, але далейшыя падзеі павярнулі ходу гісторыі ў бок, спрыяльны для абвяшчэньня дзяржаўнае незалежнасьці. На той час у Земскай Радзе блізу дзьвюх трацінаў дэпутатаў было за вольнасьць. Рэшта заставалася на пазыцыях краёвай аўтаноміі. У тым сама часе вызначыліся дзьве партыі. Адна — прагматычная на чале з будучым эстонскім прэзыдэнтам Канстанцінам Пэтсам, што выступала за роўныя й добрасуседзкія дачыненьні з усімі краінамі, у тым і з Расеяй, другая — група інтэлектуалаў на чале зь Янам Тэнісонам, што мела цэнтар у Тарту, і гэта зразумела, бо там месьціцца ўнівэрсытэт. Урэшце 24 лютага 1918 году была абвешчаная незалежная дэмакратычная Эстонская Рэспубліка. Ужо на наступны дзень па абвяшчэньні дзяржаўнае незалежнасьці, 25 лютага 1918 году, нямецкія войскі ўварваліся ў Эстонію й акупавалі большую частку краіны. Рэжым гэты трываў да 11 лістапада, калі немцы сышлі й на чале Часовага ўраду Эстоніі стаў згаданы вышэй Канстанцін Пэтс. Да 1920 году доўжылася вайна, у якой Эстоніі даводзілася змагацца на двох франтах: з аднога боку адбіваць жаўнераў нямецкага Ляндсвэру, а зь іншага — чырвонаармейскія палкі. Канец гэтаму процістаяньню быў пакладзены ў вырашальнай бітве ля латыскага гораду Цэсіс, дзе эстонска-фінскае войска разьбіла савецкае і вызваліла не толькі Эстонію, але й Рыгу. 2 лютага 1920 году была падпісаная мірная ўмова між Эстоніяй і Расеяй, якая дагэтуль з нашага боку ўважаецца за адзіны дакумэнт, што рэгулюе дачыненьні між нашымі краінамі. Расея не прызнае таго падпісанага ейнымі рэпрэзэнтантамі дакумэнту, як і усталяванай у 1920 годзе мяжы. Таму на сёньня між Эстоніяй і Расеяй няма дзяржаўнае мяжы, адно толькі памежная лінія з кантрольнымі пунктамі. А частка тэрыторыяў, што ў 1920—40 гадах уваходзілі ў склад Эстоніі, цяпер кантралююцца Расеяй.

**«НН»: Ці былі гэтыя абшары эстонскія паводле этнічнага складу ў 1920 годзе?**

**Я.В.:** У памежных раёнах Пскоўшчыны дагэтуль жывуць эстонцы, хоць чым далей ад граніцы, тым іх меней. Яны, безумоўна, маглі б перасяліцца ў Эстонію, але, самі разумееце, яны маюць там сваю гаспадарку, дый пераважна гэта старыя людзі...

**«НН»: У Эстоніі, гэтаксама як і ў шмат якіх краінах Эўропы, пры канцы 1930-х быў усталяваны дыктатарскі рэжым...**

**Я.В.:** Па абвяшчэньні незалежнасьці Эстонія сталася парлямэнцкай рэспублікай, на чале ўраду стаў Канстанцін Пэтс, які ў 1937 годзе зьдзейсьніў дзяржаўны пераварот і абвесьціў у краіне прэзыдэнцкую рэспубліку. Паводле новае Канстытуцыі быў створаны дзьвюхпалатны парлямэнт, а Пэтс абраны на прэзыдэнта. Перад інкарпарацыяй краіны ў склад СССР узровень жыцьця ў Эстоніі быў адзін з найвышэйшых у Эўропе, нават у нечым лепшы за фінскі. 23 жніўня быў падпісаны фатальны для нас Пакт Молатава-Рыбэнтропа, а пад ціскам Масквы 28 верасьня 1939 году быў заключаны Пакт аб узаемадапамозе між Эстоніяй і СССР, паводле якога ў краіне ствараліся савецкія вайсковыя базы і ўводзіўся 25-тысячны вайсковы кантынгент. 16 чэрвеня 1940 году СССР выстаўляе ўльтыматум, а наступным днём мяжу пераходзіць 100-тысячнае савецкае войска, што даверша працэс анэксіі. Далей усё рабілася паводле стандартнага сцэнару. Варта адцеміць, што ў 1940 годзе ў Камуністычнай партыі Эстоніі было 130 сябраў. 17 чэрвеня на загад Жданава на пляцы Волі ў Таліне адбылася дэманстрацыя камуністаў, якія, паводле сьведчаньняў, усе размаўлялі па-расейску й былі апранутыя ў вайсковае. На "просьбы працоўных" Канстанцін Пэтс пайшоў у адстаўку, і ўладу захапілі камуністы. Неўзабаве ў ліпені 1940 году прайшла першая хваля арыштаў: уся эстонская эліта разам з прэзыдэнтам была вывезеная на ўсход.

Інкарпарацыі Эстоніі ў склад СССР не прызнала амаль ніводная з найбуйнейшых краінаў сьвету. 14 чэрвеня 1941 году дзесяць тысячаў эстонцаў былі высланыя ў Сібір. Гэта вельмі шмат з увагі на паўтарамільённае насельніцтва краіны ў 1940 годзе. Столькі ж людзей і зараз жыве, але тады зь іх 96% былі эстонцамі, а цяпер толькі 65% (у 1989 годзе — 61%). Да стратаў другое сусьветнае вайны пры канцы 1944 году дадаліся другая дэпартацыя дваццацёх тысячаў чалавек у вядомым кірунку і міграцыя замежных грамадзян у Эстонію (маюцца на ўвеце грамадзяне Савецкага Саюзу — В.М.).

**«НН»: Як адбывалася аднаўленьне рэальна незалежнай эстонскай дзяржавы?**

**Я.В.:** 16 лістапада 1989 году парлямэнт ухваліў Дэклярацыю аб дзяржаўным сувэрэнітэце Эстоніі. Але нават тады ніхто ня мог падумаць пра выхад з СССР — гэта было нерэальна. Сытуацыя нагадвала 1917 год — нас задаволіла б і шырэйшая аўтаномія, нават ня верылася, што неўзабаве Эстонія зноўку станецца вольнаю. Эстонія другога разу атрымала незалежнасьць дзякуючы спрыяльным гістарычным акалічнасьцям. Хоць заўжды за незалежнасьць ішло змаганьне: апошні "лясны брат" быў схоплены ў 1974 годзе, але задоўга да ягонага арышту партызанскі рух быў задушаны. 20 жніўня 1991 году Найвышэйшая Рада Эстоніі абвясьціла аб аднаўленьні дзяржаўнае незалежнасьці. 28 чэрвеня 1992 году было адноўленае дзеяньне Канстытуцыі 1937 году, адначасова адбыліся выбары ў Дзяржаўны сход і прэзыдэнта. Мы першыя ажыцьцявілі грашовую рэформу. У 1993 годзе былі абраныя мескія й валасьцевыя Рады, Эстонія сталася сябрам Рады Эўропы, а налета ўлучылася ў праграму NATO "Партнэрства дзеля міру". Гэткі наш шлях у Эўропу.

**«НН»: А якім Вы бачыце беларускі шлях у Эўропу, якія Вашыя ўяўленьні пра Беларусь?**

**Я.В.:** У вас ёсьць чалавек, пра якога заўжды прыемна пісаць журналістам, таму ўвага да вашае краіны ёсьць і ў Эстоніі. Але ў Эстоніі мала ведаюць пра самую Беларусь. Хоць у нас жыве пад 20 000 беларусаў, злучаных у пяць грамадаў, што цяпер стварылі асацыяцыю.

Палітычнае становішча краіны залежыць ад ейных паводзінаў. Каб быць у Эўропе, краіна мае гуляць паводле правілаў Эўропы. Беларусь не прымае гэтых правілаў, у выніку — уваходзіць у Эўразію, ці, як нехта сказаў, у Азіёпу. Цяпер відно, што будучыня Беларусі шмат у чым залежыць ад падзеяў у Расеі.

**«НН»: Ці насамрэч гэткае вострае цяпер пытаньне "расейскамоўных" у Эстоніі й пільнаваньня іхных свабодаў і правоў?**

**Я.В.:** Вялікая доля "расейскамоўных" не азначае наяўнасьці ў нас значнае "пятае калёны". 20% неэстонцаў хочуць эміграваць з краіны, але зь іх толькі 3% — на ўсход. Гэткім чынам, ня можна казаць аб жаданьні "расейскамоўных" вярнуцца ў Расею ці аднавіць колішні лад. Яны яшчэ болей імкнуцца ў Эўропу, а праз гэта гатовыя на ўсё. У тым сама часе інтэграцыя Эстоніі, як і кожнай іншай краіны, у новы зьвяз, гэтым разам эўрапейскі, мае і адмоўны бок — страту пэўнае часткі сувэрэнітэту.

**Падрыхтаваў Віктар Мухін**


Фота IREX-ProMedia

# КАНЕЦ ІЛЮЗІЯЎ

*Працяг са старонкі 1.*

Гэта была дакладна прадуманая і загадзя сплянаваная дэманстрацыя сілы і жорсткасьці рэжыму. Натоўп расьсякалі і рассоўвалі вельмі прафэсійна. Суботняя размова Пуціна з Лукашэнкам паказвае, што замовіць такую дэманстрацыю сілы магла й Масква напярэдадні выбараў.

Усяго колькасьць тых, хто з розных бакоў спрабаваў прабіцца на пл.Якуба Коласа, можна ацаніць у 12—15 тысячаў чалавек. У адных людзей засталося пачуцьцё горычы і бясьсільля. Яны ня ведалі, што рабіць у сытуацыі жорсткага разгону. У другіх наадварот стварылася ўражаньне, што на гэтым Дні Незалежнасьці ўлады пацярпелі поўную паразу. Сьвет пабачыў, што робіцца ў Беларусі. Што да ўдзельнікаў, дык затрыманьні ўжо нікога не палохаюць: «улады бясьсільныя, таму і робяць гістэрыкі».

«Многія цешыліся ілюзіямі, што ўсё будзе гэтак проста, што дастаткова, каб 100 тысячаў выйшлі на плошчу, і рэжым адразу пахісьнецца. Сёньня канец ілюзіяў. Патрэбныя глыбейшыя зьмены ў грамадзтве і культуры», — кажа мавазнаўца Юрась Бушлякоў.

Кіраўнік Беларускай Асацыяцыі Журналістаў Жанна Літвіна назвала тое, што адбывалася на сьвята, «беспрэцэдэнтным хамствам у дачыненьні да журналістаў і абвяшчэньнем вайны прэсе». Былі затрыманыя журналісты Радыё «Свабода», *France Press*, *AP*, «Нашай Свабоды», «Кур'еру», «Белавескай пушчы», «Рабочага», «Згоды», «Права на волю», «Белорусской Деловой Газеты», ОРТ, НТВ, РТР, ТВЦ, ІТАР-ТАСС. У журналістаў білі камэры, дыктафоны, акуляры. Былі затрыманыя журналісты і аўтары нашай газэты Славамір Адамовіч, Тацяна Сьнітко, Аляксей Шыдлоўскі, Аляксей Фралоў (разам з маці), Вадзім Болбас, Мікола Яўмененка, Паўліна Сьцепаненка. У рэпарцёра Радыё «Свабода» Валера Каліноўскага не пабачылі мабільнага тэлефона, і такім чынам у суботу адбыўся ўнікальны рэпартаж зь месца інтэрнаваньня — часткі ўнутраных войскаў на вул.Маякоўскага. Журналіст ня толькі перадаў свой рэпартаж, але і ўзяў інтэрвію ў інтэрнаванага тамсама Анатоля Лябедзькі.

Нягледзячы на дыпляматычны імунітэт, былі затрыманыя на пару гадзінаў дэпутат польскага Сойму Мар'юш Камінські і яшчэ пяць грамадзянаў Польшчы, а таксама супрацоўнік місіі АБСЭ Крыстафэр Паніка. Дакладчык Рады Эўропы па Беларусі Вольфганг Бэрэндт заявіў у інтэрвію Радыё Свабода, што не ўяўляе сабе, якія свабодныя і дэмакратычныя выбары могуць адбыцца ў сытуацыі такіх рэпрэсіяў, «калі тое, пра што паведамляецца, праўда», дадаў ён — відавочна ня могучы даць веры, што рэпрэсіі такога маштабу могуць быць развязаныя ў Менску на вачах у міжнародных назіральнікаў. Дзень Волі стаў канцом надзеяў на дэмакратычную эвалюцыю рэжыму.

У вайсковай частцы на вул.-Грушаўскай у суботу апынуліся каля 65 чалавек. Каля 100 чалавек былі завезеныя ў спэцразьмеркавальнік на вул.Акрэсьціна. У Савецкім РАУС было каля 100 чалавек.

Пад 200 затрыманых былі дастаўленыя ў частку ўнутраных войскаў на вул.Маякоўскага. Усяго, паводле папярэдніх ацэнак, было затрымана 420 чалавек (зьвесткі Гельсынскага камітэту) або нават 500 чалавек («Вясна-96»). Большую частку затрыманых выпусьцілі ў суботу ж. Каля 50 чалавек застаюцца ў астрозе. Моцна зьбітых людзей няшмат.

Былі затрыманыя таксама два чарнаскурыя беларусы. Журналісты, што бачылі аднаго зь іх у месцы інтэрнаваньня, спыталіся па-расейску, хто ён і што. «Пацярпеў за родную Беларусь!», — адказаў ён чыста па-беларуску.

Людзі самі сваім розумам вырашалі, што рабіць. Правядзеньне акцыі на плошчы было немагчымае. Большая частка людзей рушыла да плошчы Бангалор дварамі. Каля 1,5 тысячаў чалавек пад пільным наглядам паліцаяў, церпячы пэрыядычныя налёты і затрыманьні, усё ж прайшлі шэсьцем тратуарамі пр.Скарыны і вул.Сурганава. Апошні моцны налёт на іх адбыўся ўжо на пляцы Бангалор, за некалькі соцень мэтраў ад пляцоўкі мітынгу. Той ужо ішоў. Усяго ў мітынгу ўзялі ўдзел каля 4 тысячаў чалавек. Выступілі Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык і Мікола Статкевіч, якія ўніклі затрыманьня. Яны заклікалі да змаганьня. «Чарнобыльскі шлях» абавязкова мае адбыцца, лічаць яны. І, нягледзячы на ўсе рэпрэсіі, ён мае быць мірны і прыгожы.

А 2 красавіка, у дзень "яднаньня з Расеяй", апазыцыя будзе ладзіць "Малітву за Беларусь".

**Барыс Тумар**

# БЫКАЎ ДАЕ ПАДКАЗКУ

*Працяг са старонкі 1.*

У выступе літаратара прагучала важная падказка нацыянальнаму адраджэньню, прапанова зьмяніць ракурс з патэтычнага на прагматычны. Маўляў, мы не настолькі дужыя, каб быць настолькі бясхітраснымі.

«Мы ведаем гісторыю ўсяго нашага змаганьня за сувэрэннасьць, за дзяржаўнасьць, якой, на жаль, і дагэтуль няма, — сказаў Васіль Быкаў. — Няма, бо, відаць, сілы нашыя слабыя, каб дамагчыся таго, чаго мы хочам і на што мы маем права — боскае і чалавечае. Значыць, у такім выпадку, трэба ўлічваць усе акалічнасьці і весьці змаганьне вельмі разумна і ганарова. У гэтым сэнсе я хацеў бы нагадаць толькі адзін момант, — дачыненьні зь іншымі сіламі, іншымі нацыямі і народамі — і сябрамі, і ворагамі таксама.

Адразу пасьля абвяшчэньня БНР, на мой погляд, была дапушчаная адна вялікая памылка. Яна заключалася вось у чым. Як вядома, бальшавікі (і ня толькі бальшавікі) папракалі Ўрад БНР за тое, што ён паслаў тэлеграму кайзэру Вільгельму. Маўляў, як мог дэмакратычны ўрад незалежнай Беларусі пасылаць такую тэлеграму, маўляў, гэтая тэлеграма зганьбіла беларускую ідэю — ідэю сувэрэннасьці, незалежнасьці. А насамрэч што ж адбылося? Летувісы і латышы паслалі такія тэлеграмы раней, і яны атрымалі афіцыйнае эўрапейскае прызнаньне сваёй незалежнасьці. Беларусы паслалі са спазьненьнем больш чым на месяц і, такім чынам, не атрымалі ні адказу, ні прызнаньня, а толькі зганьбілі пэўным чынам свой гонар. Як важна кожную справу рабіць своечасова!» — сказаў Васіль Быкаў.

Выглядае, што пісьменьнік, які апошнім часам вызначаў беларускую сытуацыю як пэсымістычную, гатовы даваць практычныя рэкамэндацыі палітыкам, якія ім гэтак патрэбныя сёньня.

26 сакавіка спадарыня Сурвілла правяла сход Эўрапейскае сэкцыі Рады БНР.

**С.П.**

## Вайсковыя парады

25 сакавіка ў Грэцыі адбыліся вайсковыя парады ў розных гарадах з нагоды Дня Незалежнасьці. Над Акропалем праляцелі баявыя самалёты і гелікоптэры.

Грэцыя сьвяткавала. Беларусь таксама.

Гарадзенскай міліцыі загадалі паказаць ашчэр, каб у сталіцы лішне не крытыкавалі за лібэралізм. Шэсьце пад сьцягамі міліцыянты спачатку не хацелі пускаць на вул.Савецкую, хаця яна пешаходная. Прапусьцілі, але праз 200 мэтраў з баявымі выгукамі дарогу загарадзілі 50 амонаўцаў у сталёвых шлемах і зрабілі «жывую барыкаду». Усё адбылося пад носам у каменнай статуі маршала СССР Васіля Сакалоўскага, што родам зь вёскі Козьлікі Беластоцкага павету. Некалькі хвілінаў доўжылася напружаньне. Шэсьце мусіла з Савецкай збочыць на Дамініканскую, а пасьля на Вялікую Траецкую. Амонаўцы паўзводна са сваімі індзейскімі крыкамі ўцяклі гэтаксама раптоўна, як прыбеглі.

Мітынг адбыўся. Трыбуна — ГАЗ-66. Сьпяваў В.Шалкевіч. Вельмі спадабалася публіцы велізарная шайба з партрэтам нашага шаноўнага Рыгоравіча — хакеіста нумар адзін, якую змайстравалі гарадзенскія рабочыя. Спалілі расейскі сьцяг, а бел-чырвона-белы і эўрапейскі ўзьнялі на флягштоках.

Прынялі рэзалюцыю і падтрымалі задуму склікаць Усебеларускі зьезд. Было больш за 2 тысячы чалавек.

**Сяргей Астраўцоў, Гародня**

# З РАБСКАГА СНУ

***Дзень Волі сьвяткавалі ва ўсіх гарадах Беларусі***

У Воранаве першымі — а 8-й раніцы — правялі пікет. Упершыню. Быў ажно 6-мэтровы транспарант «Жыве вольная Беларусь». У Мастах сабраліся мітынгаваць 200 чалавек. У Шчучыне ў пікеце стаялі 9 чалавек і шмат хадзіла навокал. У Сьвіслачы каля адзінага ў краіне бюсьціка К.Каліноўскага сабраліся на мітынг каля 50 асобаў. Начальства мітынг дазволіла, але адначасова абвясьціла суботнік у гарпарку.

Мітынг адбыўся ў Лідзе — ладзілі яго вячоркаўцы і пазьняковцы супольна. У Дзятлаве зьявіліся надпісы на сьценах і ўлёткі. У Бераставіцы — таксама надпісы і бел-чырвона-белы сьцяг над нячынным касьцёлам. У Смаргоні прайшло невялікае шэсьце.

У Наваполацку напярэдадні сьвята зьявіліся ўлёткі ў горадзе і бел-чырвона-белы сьцяг на ўнівэрсытэце. Ля гарадзкога Дому культуры адбыўся пікет-мітынг з удзелам больш як сотні чалавек.

У Віцебску яшчэ да пачатку шэсьця былі затрыманыя 6 чалавек. Сярод іх — дэпутат Шчукін, былы палітвязень Ул.Плешчанка, сп.Карпаў, Піменаў, Салаўян. Прозьвішча шостага арыштаванага пакуль невядомае.

На Магілёўшчыне мітынгавалі, дэманстравалі, вешалі на трубы сьцягі і сядзелі ў пастарунках. У Магілёве адбыліся шэсьце і невялічкі мітынг, у якіх удзельнічалі 150 магілёўцаў.

У Бабруйску не абышлося без затрыманьняў. Там актывісты БНФ і «Грамадзянскага Форуму» ў цэнтры раздавалі сьвяточныя буклеты пра гісторыю БНР. Міліцыя палічыла гэта мітынгам і арыштавала 8 чалавек. У пастарунку на іх склалі пратаколы, накштальт: «участвовал в организации проведения несанкционированного собрания на пл.Победы с 14.00 до 15.00, раздавая участникам собрания и прохожим гражданам газету «Рабочы Бабруйска» и другие издания, брошюры, не имеющие реквизитов о регистрации, публично обсуждая вопросы общественно-политической жизни, имел символику бело-красно-белого флага».

У Горках тутэйшы Мірон павесіў на высачэзную трубу кацельні беларускі сьцяг, а ўвесь горад быў абклеены адпаведнымі ўлёткамі. У Шклове Міронаў пакуль няма, дык нехта іншы намаляваў бел-чырвона-белы сьцяг на будынку райвыканкаму і напісаў «Жыве Беларусь!». У Крычаве адбыўся дазволены ўладамі пікет.

У Гомелі з раніцы на краі гораду адбыўся пікет. У Салігорску на стадыёне «Шахцёр» на сьвята сабраліся 50 чалавек. У Баранавічах на мітынг прыйшлі пад 200 чалавек, добра пасьвяткавалі, але пасьля У.Гоўшу затрымалі за тое, што ён нёс бел-чырвона-белы сьцяг. У Берасьці на стадыёне «Будаўнік» сабраліся каля 150 чалавек. Міліцыянты-варта ніяк не рэагавалі на правакацыі эрэн'эшнікаў, што тутсама задзіраліся.

**Андрэй Аляксандраў, Сяргей Астраўцоў, В.Баршчэўскі, Сымон Глазштэйн, Тацяна Сьнітко**

# Менск веснавы

Тацяна СЬНІТКО

Сьвяткаваць Дзень Волі гэтым разам я марыла не на працы, а на вёсцы. Пляны скарэктаваў Менгарвыканкам. Забарона шэсьця відавочна абяцала, што дзянёк выдасца "стаханаўскі".

Ранкам пабудзіў тэлефон. "Сустрэнемся каля "Ростаняў", там пагаворым", — сказала сяброўка. Выходзячы праз колькі гадзінаў з тралейбуса, я зьдзівілася: на месцы сустрэчы зь сяброўкай красаваліся тры БТРы і пара пажарных машынаў. Імгненная злосьць успыхнула ў душы. Мала таго, што плююць на тваё грамадзянскія пачуцьці, нацыянальную годнасьць, канстытуцыйныя правы, ім трэба ўлезьці яшчэ і ў тваё асабістыя пляны!

Іду шукаць сяброўку на іншы бок праспэкту. "Труба" пераходу з заблякаванымі міліцыяй выхадамі. Якое глупства! Калі рэзка пачнецца любы хуткі рух... «Няміга!" — далятаюць размовы мінакоў. Так, Няміга. Глупства альбо чыйсьці разьлік? І калі разьлік, то тады чым насамрэч была Няміга?..

А сёньня так пагодна!

Выйсьці з "трубы" магчыма толькі да Камароўкі. Па-выходнаму шматлюднага і другога па крымінагеннасьці месца Менску пасьля вакзалу.

«Пляц Якуба Коласа зачышчаны ўвесь, — перадаюць па рацыі міліцыянты, — натоўп расьсечаны на часткі».

Я пачынаю думаць, што, магчыма, праспала абвяшчэньне Лукашэнкам нейкай вайны.

І тут пачынаецца куламеса. Гэта напад на здымачныя групы ОРТ і РТР. Сынхронна. Дубінкамі — па камэрах, па сьпінах. "Камэра каштуе 20 тысяч даляраў!" — "Знаем, знаем!". Людзі спрабуюць дапамагчы расейскім карэспандэнтам утрымаць апаратуру — міліцыянты яе вырываюць з рук, трушчаць. Брэшуць сабакі і рацыі.

Куды падацца? Відаць, да ўправы Фронту. Людзі на вуліцах застываюць на месцы пры выглядзе мянтоўскай боегатоўнасьці. На рагу Варвашэні "шлёмы" трымаюць знаёмага апазыцыянэра сталага веку. У яго зьнялі з паліто значок — бел-чырвона-белы сьцяжок, выкручваюць рукі. "Забірайце свайго дзядзьку ды сыходзьце! — дазваляе мне міліцыянт гадоў дваццаці двух. — Нічога мы не здамалі й не выкручвалі!"

Управа БНФ абкружана міліцэйскімі машынамі. Але ля замкнёных дзьвярэй нікога. Шыба ў вакне пабітая.

— Хлопцы, што там у вас адбываецца?

— Адыдзіцеся хутчэй! Вас забяруць!

Не пасьпяваю адрэагаваць на словы Віктара Мухіна ў вакне, як мяне абкружаюць шлемы. Супраціўленьне бессэнсоўнае.

— І куды паедзем? — мы ўжо ў "уазіку'.

— Девушка, вот вы адна среді нас. Не будем а грустнам. Скажіте што-нібудь а весне, а любві... — флегматычна адказваюць з усіх бакоў мае чацьвёра "целаахоўнікаў".

— У Савецкі РАУС?

— Зачем? Можна за горад...

Потым мяне вядуць з "уазіка" ў фургон і гасьцінна адчыняюць закратаваны адсек. Мэтар на мэтар, дзьве лаўкі, нізкая столь.

— Что-нибудь колющее, режущее есть в сумке? — пытаюцца, а забіраюць касэту з дыктафона.

Чытаюць пасьведчаньні. Рэакцыя на дакумэнт уласнага карэспандэнта "Украіны молодой":

— УНА-УНСО?!

— Хлопцы, які на сёньня плян па затрыманьнях?

— Чым больш, тым лепш.

Так мы сядзім хвілінаў з трыццаць. Потым побач чуваць гукі барацьбы. Дзяўчыну й хлапца запіхваюць не да мяне ў кампанію, а ў "стакан" — адсек бяз вокнаў. Дзяўчына пужаецца, ня хоча ў цемру, упіраецца. Праз краты бачна яе пасьведчаньне: журналістка Тацяна Папова. Яна з газэты "Згода". Ейны спадарожнік — сябра БАЖ Сяржук Міхальчук.

## Пра Сянкоўскага

У нумары «НН» за 13.03.2000 г. у «Календары» прачытала матэрыял пра Сянкоўскага. Вельмі прыемна, што газэта не забылася на юбілей гэтага сапраўды незвычайнага чалавека. Я ў свой час таксама цікавілася ягоным жыцьцём. І, здаецца, мы са сп.Гардзіенкам карысталіся ў сваіх пошуках рознымі крыніцамі.

Вось нашыя разыходжаньні:

1. Сянкоўскі ведаў амаль удвая болей моваў, чым узгадана ў тэксьце.

2. З Булгарыным і Грэчам ён «зблізіўся» не пасьля таго, як «адышоў ад выкладчыцкай дзейнасьці», а да таго, у 1823 г. А пасьля, калі пачаў працаваць у «Бібліятэцы для чытаньня», на ніве канкурэнцыі разышоўся зь імі.

3. «Паўночная пчала» не часопіс, а газэта.

4. Траплялiся апавяданьні, аповесьці, фэльетоны, навуковыя і крытычныя артыкулы Сянкоўскага, але не раманы. Хто іх чытаў, хай мяне паправіць.

5. Часопіс «Бібліятэка для чытаньня» заснаваў купец Сьмірдзін. Сянкоўскі ж быў рэдактарам, хаця пазьней перакупіў правы выдаўца.

6. Журналістыку Сянкоўскі пакінуў пры канцы 40-х гадоў, не «нечакана», а праз жорсткую цэнзуру. А ў 50-х, перад сьмерцю, зноў вярнуўся да гэтага занятку.

**Валянціна Рапэтнік, Менск**

## Паважаны сп.Пруднікаў!

З удзячнасьцю прачытала ваш водгук на мой артыкул "Herstory замест history". Аднак засмуцілася — няма кантакту. Ці то я цьмяна напісала, ці то вы цьмяна зразумелі. Я не заклікаю перапісаць гісторыю так, каб зрабіць перакос у бок жанчын, гэта было б глупства ў духу вядомага польскага фільму "Сэкс-місія": "Каін забіў сваю сястру Абэль. Мужчыны вынайшлі атамную бомбу і рак маткі". Я хачу, каб была напісаная гісторыя з пункту гледжаньня жанчын. Знойдзеныя адказы на маленькія і велькія, канкрэтныя і абстрактныя пытаньні. Напрыклад, якую ролю грала жанчына ў Сярэднявеччы? Ці: наколькі лёс францускай кароны вырашалі фаварыткі? Хто такая Марыя Мэдычы? Колькі было спалена ведзьмаў пры Тарквэмаду? Які эканамічны, сацыяльны, палітычны ўнёсак жанчынаў у цывілізацыю на розных этапах яе разьвіцьця? Што нам прынёс і чаго пазбавіў патрыярхат? Без адказаў на гэтыя пытаньні няма роўнасьці. Справядліва пішацца ў дакумэнтах ААН па правах жанчыны: без адказу на гэтыя пытаньні роўнасьць прынясе яшчэ большую няроўнасьць.

Спачатку давайце вызначым месца жанчыны ў цывілізацыі, прыбярэм усе бар'еры на шляху, а тады забудземся на гэтую праблему, ня будзем зважаць, мужчынам ці жанчынай зьяўляецца той ці іншы мысьляр, паэт, палітык.

І дзе вы бачылі ў маім артыкуле хоць грамулю варожасьці? Каго я там заклікала "узяць пад ногі"? Я б не паважала сваіх мэтаў і сябе, калі б заклікала да нечага гэткага. Ёсьць пастулят сучаснага фэмінізму: не "аддайце тое, што ў нас забралі", а "хай кожны робіць сваю справу!"

З тым, што "ня трэба падзяляць дасягненьні й творы на мужчынскія й жаночыя", я цалкам згодная. Залатыя вашыя словы! Аднак паўтаруся: каб выправіць дзе-нідзе сытуацыю няроўнасьці, прыйдзецца зважаць на полавыя прыкметы. А як інакш змагацца з жаночай перагружанасьцю альбо недастатковым удзелам у прыняцьці рашэньняў? Напрыклад, як бы вы змагаліся зь перавагай расейцаў у адміністрацыі Беларусі, ня вывучыўшы біяграфіяў чыноўнікаў — хто наеджджы, а хто тутэйшы?

Вы кажаце, што кар'ерысткі маюць часам і хатнюю гаспадарку, і мужа зь дзецьмі — я згодная. Але спытайцеся пра іхныя нагрузкі, запытайце, чаго ім каштуе круціцца і туды і сюды, колькі гадзінаў яны сьпяць і як бавяць выходныя. Колькі кабет разьвяліся з-за працы, а колькі кінулі прэспэктыўную працу з-за сям'і. Вам адкрыецца шмат новых ісьцін.

І яшчэ: я не лічу мужчын пачварамі. Я ўпэўненая, што ад несправядлівасьці і няроўнасьці, мітаў і стэрэатыпаў мужчыны пакутуюць гэтакжа, як і жанчыны.

Я ня так ставіла пытаньне, як вы яго пабачылі. Думайце яшчэ.

**З павагаю, Сьвятлана Курс**

## У нас няма мэраў

Апошнім часам зачаста старшыняў аблвыканкамаў называюць «губэрнатарамі». Такое бачыш нават на старонках незалежных беларускіх выданьняў. Адкуль гэта? Хіба мы ўжо жывем у Расеі? Гэта ж там — губэрнатары. Крыўдна, што кажучы пра неабходнасьць змаганьня за незалежнасьць Бацькаўшчыны і ў першую чаргу пра незалежнасьць ад Расеі, нашыя паважаныя журналісты робяць такія недаравальныя памылкі. Можа нехта й скажа, што гэта ня так істотна, але не пагаджуся — істотна. Дробныя саступкі прыводзяць да страты асноўнага.

І яшчэ. Вядома, што губэрнатар у сьвеце, таксама як і мэр, звычайна — пасада выбарная. Іх абірае народ. А нашыя «губэрнатары» і «мэры» вядома кім «абраныя». Такім чынам прызначаных кіраўнікоў, калісьці, прыкладам, у старажытным Рыме, называлі «намесьнікамі». Здаецца, такі назоў ім пасуе больш. Значыць, называючы старшыню аблвыканкаму-вэртыкальшчыка «губэрнатарам», а другога вэртыкальшчыка, старшыню гарвыканкаму, — «мэрам», мы, з аднаго боку, уводзім нашых чытачоў у зман, а з другога — надаем шмат гонару гэтым намесьнікам.

**Аляксей Дзікавіцкі, Пінск**

# АД ПЯЦІРОГУ ДА ЗОРКІ

***А.Цітоў. Сфрагістыка й геральдыка Беларусі. — Менск: Рэспубліканскі інстытут вышэйшае школы Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, 1999. — 176 с., іл. — Наклад 3000 ас. ISBN 985-6299-36-5***

Нарэшце зьявілася кніга, якую чакалі ўсе. Крок за крокам да яе ішоў знаны геральдыст Анатоль Цітоў. Спачатку былі выпушчаныя кнігі пра гарадзкія гербы, потым пра дзяржаўны герб «Пагоню», пра старажытныя пячаткі Беларусі, далей — артыкулы пра геральдыку і сымболіку рамесных цэхаў, рэлігійных суполак. Цяпер прыйшоў час усё абагульніць, і зьявілася кніга «Сфрагістыка і геральдыка Беларусі». Тут ёсьць асноўнае з папярэдніх працаў аўтара і галоўнае з таго, чаго не было сказана раней. Выданне выйшла ў Мэтадычна-выдавецкім цэнтры Рэспубліканскага інстытуту вышэйшай школы Белдзяржунівэрсытэту і пазначана як «ілюстраваны курс лекцыяў». Падручнік, значыцца.

Зьмест і стыль кнігі разьлічаны, канечне, на навучэнца, на аматара гісторыі. Мінімум аргумэнтацыі, досыць ілюстрацыяў, высновы пры канцы кожнага разьдзелу, ляканічная і вобразная мова.

Асаблівасьці мовы, дарэчы, адразу кідаюцца ў вочы. Гэта не тарашкевіца, а наркамаўка з адвольным ужываньнем асобных варыянтаў з клясычнага правапісу. Да таго ж, аўтар перабірае розныя варыянты. Як утварыць прыметнік ад слова «ракако»? Аўтар кнігі скарыстоўвае амаль побач «ракаковы» і «ракальны». Ці яшчэ з аўтарскіх экспэрымэнтаў: на адной старонцы аўтар спачатку піша «божая маці тыпу «знак», а пасьля «Божая маці» тыпу «Знаменіе».

Цяжкасьць станаўленьня беларускай навукі пра гербы — і ў пошуку тэрміналёгіі. Аўтар перабірае магчымыя варыянты, а некаторыя зь іх прапануе як асноўныя. Як назваць адзін з галоўных элемэнтаў гербу — шчыт, тарч ці тарк? Шлем, шалом, гелм ці прылбіца? Цікавы тэрмін «намітка» прапануецца як назва покрыва на шлеме, раней у нас гэту штуку звалі «намёт».

З чым ня можна пагадзіцца — гэта са схемай распаўсюджаньня заканадаўства пра пячаткі на нашых землях. Знакаміты Вісьліцкі Статут 1347 г. (між іншым, помнік старабеларускай мовы) дзейнічаў выключна ў Польшчы. Тое самае і Статут 1504(?) г. Аляксандра Ягелончыка. Ня дзіва, што ў Статуце Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. няма нормаў пра пячаткі са Статутаў 1347 і 1504 г.

Добра дасталося папулярнай «рэлíквіі» — пячатцы Міндоўга, нібыта XIII ст. Пра яе проста напісана, што гэта фальсыфікат пачатку XX ст. Каб так і пра дзьве іншыя «рэліквіі» — пячаткі полацкага князя Ўсяслава і сына яго Барыса. Дык не, яны зноў уважаюцца за найстаражытныя ўзоры сфрагістычнага мастацтва ў Беларусі. Хто б нарэшце дакапаўся да праўды пра гэтыя рамантычныя падробкі зь Віленскага музэю Івана Луцкевіча?

Аднаго кроку забракла аўтару, каб зьвязаць першую вядомую беларускую пячатку з выяваю коньніка («Пагоняй»?) полацкага князя XIV ст. зь летапіснай прыгадкай пра тое, што «Пагоню» ўпершыню займеў князь Нарымонт. А Нарымонт і Глеб Полацкі — адна асоба...

Не пашанцавала некаторым цудоўным малюнкам. Пячатка А.Корвін-Гасеўскага на розных старонках датуецца і 1614, і 1601 г.. Два разы на адной старонцы надрукаваны адзін герб, які быццам належаў ці Ф.Сапегу, ці М.Ломскаму. Затое з аднолькавым подпісам – як герб Рыгора Хадкевіча з заблудаўскага «Эвангельля» 1569 г. – даюцца зусім розныя гравюры (дарэчы, на якой гэта мове: «Герб Григорея Александровича Хадкевіча»?).




З зусім новых распрацовак аўтара — асэнсаваньне савецкай сымболікі. Паказана, што хвалёная пяціпрамянёвая зорка — зусім не чужы старабеларускай геральдыцы сымбаль. Быў нават у XVI ст. такі шляхецкі герб — «Пяцірог» (і свастыка была, пад назовам шляхецкага гербу «Барэйка»). Аўтар спрабуе ўстанавіць повязь савецкай геральдыкі з масонскімі сымбалямі. У тэксьце кнігі пра гэта нічога, але красамоўна глядзіцца шэраг ілюстрацыяў пра гербы савецкіх рэспублік. Ён пачынаецца з адбітку адной масонскай пячаткі. Вельмі яна падобная да савецкіх: і вянок наўкол, і стужка зьнізу, і зорка зьверху. Пячатка, дарэчы, паходзіць з Горадні (толькі гэта не сярэдзіна XIX ст., бо ложа звалася «Сябар чалавецтва», існавала ў 10—20-х гадах і была забароненая ў 1829 годзе).

Некаторыя важныя высновы кнігі зусім ня цяжка аспрэчыць. Што гарады без магдэбурскага права не маглі мець гербу (а Гомель, Клецак?). Што брацтвы пачалі ўзьнікаць пасьля берасьцейскай вуніі 1596 году. Што на сёньня архівы БНР усе ў Маскве. Што Стары і Новы Запаветы — агульныя кнігі для хрысьціянства, юдаізму і мусульманства. Увогуле з рэлігійнай тэрміналёгіяй цяжка разабрацца. Прысутнічае дзіўнае «рымска-грэчаска-каталіцкае веравызнаньне» і, наадварот, «нярымская канфэсія». Цікава, зь якіх багоў складаецца «грэкабізантыйскі пантэон»?

Увогуле, грандыёзная колькасьць лексычных і граматычных хібаў паказвае на тое, што надпіс на апошняй старонцы кнігі «ў аўтарскай рэдакцыі» проста маскуе адсутнасьць усялякай рэдактарскай падрыхтоўкі, а прозьвішча карэктара можна было б і не пазначаць, яго працы ня бачна. А ўсё гэта разам спрычынілася да таго, што кнігу ніяк ня можна ўважаць за падручнік. Так дрэнная выдавецкая праца абясцэніла важную і патрэбную кнігу. Хто б яе перавыдаў старанна?

**Валеры Пазьнякоў**

# РЫЦАРЫ Ў РАТУШЫ

20 сакавіка полацкі ваярска-гістарычны клюб "Жалезны Воўк" у віцебскай ратушы наладзіў выставу сярэднявечнага рыцарскага ўзбраеньня, рэканструкцыю якога палачане робяць сваімі рукамі. Гэта ўжо трэцяя падобная выстава, да гэтага сваё майстэрства «рыцары» дэманстравалі ў полацкім краязнаўчым музэі і браслаўскім музэі народных рамёстваў. Палачане ня толькі ўласнаручна вырабляюць мячы, шаломы і дасьпехі, але й бяруць удзел у рыцарскіх турнірах. Вось і на адкрыцьці віцебскай выставы "ваўкі" наладзілі сваё "кароннае" інсцэнаваньне "Ў карчме" — у полацкім шынку сустракаюцца немецкія і беларускія рыцары і, падпіўшы піва, дужаюцца на мячах. Канчаецца ўсё без крыві — агульным сьпевам песень і новым півам. Гэтую сваю тэатральную дзею "ваўкі" паказвалі на вуліцы перад уваходам у ратушу. Вядома, на дзею гледачоў сабралося шмат. У акцыі браў удзел і полацкі мастак Алег Елізараў. Ён задумаў новы праект, які ўмоўна называецца "Сармацкі партрэт". Першы з партрэтаў сэрыі быў прадстаўлены на выставе.

**Алесь Козік**

## НОВЫЯ КНІГІ, ДАСЛАНЫЯ Ў РЭДАКЦЫЮ

А.Агееў, І.Пушкін. **Магілёў на скрыжаваньні.** — Магілёў: Магілёўская абласная друкарня, 1999. — 96 с.: іл. — Наклад 700 ас. ISBN 985-6568-12-9

*Пад навуковай рэцэнзіяй прафэсара Анатоля Грыцкевіча выйшла ўнікальнае выданьне з 77 фотаздымкаў старога Магілёва. Цікава, што да кожнага старога краявіду пададзены выгляд тае самае мясьціны цяпер. Перад чытачом паўстаюць вежы колішніх, зруйнаваных пераважна за саветамі бажніц і палацаў на тле цяперашніх гмахаў і пустак.*

У.Ладысеў, П.Брыгадзін. **На пераломе эпох: Станаўленьне беларускае дзяржаўнасьці (1917—20 г.).** — Менск: Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, 1999. — 128 с., (6) арк.іл. — Наклад 500 ас. ISBN 985-445-191-X

*Аўтары спрабуюць максымальна аб'ектыўна разгледзець пэрыяд станаўленьня беларускае дзяржаўнасьці ў XX ст. Не бракуе, аднак, у працы памылак, у тым і сэнсавых: прыкладам, сказ з дакумэнту на с. 120—123 «Энгельс развил...» трэба чытаць як «Энгельс разбил...». Кніга будзе добрым дапаможнікам для глыбейшага вывучэньня першых гадоў парэвалюцыйнага пэрыяду нашае найноўшае гісторыі.*

**Нацыяналізм у сьвеце: мінуўшчына, сучаснасьць, пэрспэктывы.** — Менск: спартова-патрыятычная арганізацыя «Край», 1999. — 38 с. — Наклад 299 ас.

*Беларускія нацыяналісты пішуць пра сваіх калегаў з ІРА, францускі Нацыянальны Фронт, пра «новых правых» у Эўропе і рух «белых» у Паўднёвай Афрыцы. Замовіць можна па адрасе 220037 Менск а/с 49.*

З.Мажэйка, Т.Варфаламеева. **Песьні Беларускага Падняпроўя** / Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі. Інстытут мастацтвазнаўства, этанаграфіі й фальклёру. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 392 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-08-0173-5

*Праз вывучэньне бальшыні жанраў мясцовага фальклёру аўтарка раскрывае песенную сыстэму ўсходняга рэгіёну Рэспублікі Беларусь.*

**Супольнасьць:** Бюлетэнь для беларускіх няўрадавых арганізацыяў. Вып.1—2 (17—18), студзень 2000 г. — Менск: Супольнасьць, 2000. — 51 с. — Наклад 299 ас.

*Дзейнасьць беларускіх няўрадавых арганізацыяў, навіны з партнэрскіх арганізацыяў цэнтру «Супольнасьць», абвесткі ды іншая патрэбная інфармацыя для грамадзкіх дзеячоў.*

**Чытаў кнігі Віктар Мухін**

# СУЧАСНЫ ЎКРАІНСКІ РОК-Н-РОЛ

*Кажучы шчыра, сёньняшняга ўкраінскага рок-н-ролу мы ня ведаем («Воплі Відаплясава» ў разьлік не бяру). Тым ня менш, стан музычнага шоў-бізнэсу ва Ўкраіне дасьць беларускаму вялікую фору. Трэба мець на ўвазе і такі факт, што ніхто рок-канцэртаў ва Ўкраіне не забараняе, а за ўкраінскую мову ў песьнях — не карае.*

*Колькі кароткіх рэцэнзіяў на касэты з запісамі ўкраінскіх груп і салістаў, выдадзеныя ў розныя гады, дапамогуць, спадзяюся, крыху зарыентавацца, хто ёсьць хто ў тамтэйшым рок-н-роле. Калі хто хоча нешта з гэтага купіць, тэлефануйце (017) 249-08-88 (Віталь Супрановіч) або пішыце а/с 5, Менск, 220085.*

### «ТАМ, ДЕ НАС НЕМА». Група «Океан Эльзы». (р) 1998.




Гэта вельмі стылёвая група, музыка якой і нават выгляд музыкаў прадуманыя да дробязяў. Гучыць калектыў разьняволена, лёгка, хоць пры гэтым яскравых шлягераў у альбоме няма. Можа, за выняткам загалоўнай песьні. Тэксты створаны лідэрам «Океану» і вакалістам Сьвятаславам Вакарчуком, музыка пісалася супольна. Сьвятаслаў — здольны, умелы сьпявак са своеасаблівым, ня дужа моцным, затое пастаўленым голасам. Якасьць запісу — на вышыні. Група ня «грузіць» надуманасьцю тэкстаў і зьбітымі музычнымі штампамі, выконвае песьні лёгка, са здаровым драйвам. Закрывае альбом песьня на ангельскай мове. Добрая, дарэчы, песьня, але я асабіста яе зьяўленьня ў гэтай праграме нічым растлумачыць ня змог. Навошта ангельшчына, калі і па-ўкраінску ўсё добра атрымліваецца?

### «БУЛО НЕ ЛЮБИТИ». Група «Брати Гадюкіни». (р) 1996.




Дастаткова вядомая па-за межамі краю група, музыка якой, мяркуючы па гэтай касэце, цалкам зьмяшчаецца ў цэнтральным рэчышчы рок-н-ролу. Сьцёбныя, вясёлыя калектыў, які ў ахвотку прыбягае да цытаваньня чужых песень. Вельмі актыўная роля духавых інструмэнтаў у аранжаваньнях. Зь песень гэтага альбому, вельмі роўнага па якасьці, запамінаецца вытрыманая ў блюзавай стылістыцы «117 стаття» і файны рок-н-рол «Файне місто Тернопіль». Трэба думаць, што на канцэртах група выглядае яшчэ больш пераканальна і прывабна. Дасьць Бог, пабачым.

### «МИ — ХЛОПЦІ З БАНДЭРШТАТУ». Група «Брати Гадюкіни». (р) 1991.




На жаль, час бязьлітасны, у тым ліку ў дачыненьні і да рок-музыкі. Дзевяць гадоў таму гэты альбом сустракаўся слухачамі з бязумоўным энтузіязмам. Сёньня яго можна разглядаць як дакумэнт эпохі, здабытак ці не архіву ўкраінскага року, хоць, кажучы па праўдзе, мушу зазначыць: з пункту гледжаньня музыкі многія нумары актуальнасьці ўсё ж ня страцілі. З пазіцыі мінулых гадоў асабліва адчуваецца, як істотна зьмянілася якасьць запісу рок-груп, і калі б пяшчотнае ды дружнае сямейства Гадзюкіных вырашыла перазапісаць гэты альбом, упэўнены, ён прадаваўся б хіба з тым самым посьпехам, што і апошнія альбомы групы. Класная, жывая, энэргічная музыка з прыкольнымі тэкстамі. Цікава, што Гадзюкіны выйшлі з Бандэрштату, а наш N.R.M. — з напаўрэальна існуючай краіны.

### «КОМУ ВНИЗ 1990». Група «Кому вниз». (р) 1990.




Гэтая група — нешта накшталт экстрэмальнага року, які шчыльна падсеў на нацыянальнай тэматыцы. Прычым гэтая тэматыка падаецца з такой энэргіяй, з такім напорам, што нават калі не захочаш — усё адно паверыш: гэты край, гэтых музыкантаў ні ў які славянскі саюз не зацягнеш нават трактарам «Беларусь». Па музыцы — нешта змрачнаватае і збольшага падобнае на арт-рок у спалучэньні з плаўнасьцю і веліччу творчасьці даўніх лірнікаў, хоць праз 10 гадоў ад запісу тыя аранжаваньні слухаюцца ўжо ледзь не архаічна. У аснове тэкстаў шмат вершаў не савецкіх, а старых украінскіх паэтаў — Шаўчэнкі, Самойленкі і ўдзельніка «Кому вниз» вакаліста Андрія Серады. Тэксты — я табе дам! Маскаль дрыжыць і пацее ад страху. У групы напэўна ня надта вялікае, затое адданае кола прыхільнікаў, якія пустой залю не пакінуць ніколі. Каб добра зразумець, што гэта за група, паспрабуйце ўявіць сабе сьв.Янона, які працуе на сцэне з гітарай у руках.

### «IN KASTUS». Група «Кому вниз». (р) 1996.




Новым у тэматыцы песень групы, у параўнаньні з вышэйзгаданым альбомам, зьяўляецца тое, што, апрача звыклых ужо сьпеваў пра беды і радасьці Украіны-нэнькі, музыканты даволі прыкметна зьвяртаюцца да тэмы веры і Хрыста. Гэта невыпадкова: адарваць гэтыя дзьве тэмы адну ад адной вельмі няпроста. Даволі прыкметна і, безумоўна, у лепшы бок зьмянілася якасьць гучаньня і аранжаваньняў: у гэтым альбоме «Кому вниз» гучаць ужо не як крыху правінцыйныя прарокі, а як здаровы, хоць трохі змрачнаваты і аднастайны па стылістыцы калектыў прафэсійных музыкаў. Тут невыпадкова даволі шмат песень з праграмы 1990 году, якія, у іншых аранжаваньнях, гучаць прыкметна лепш. Адразу адчуваецца: гэта ня хлопчыкі ў дэс-метал гуляюцца, а дарослыя мужыкі сьпяваюць пра тое, што сэрца хвалюе. З задавальненьнем пазнаёміўся б зь імі. Вось і маем: «Полька беларуская» ў выкананьні «Сяброў» і «Ген, долиною» ці «До Основ'яненка» ў выкананьні «Кому вниз». Як кажуць, адчуйце розьніцу!

Але гэтую групу да БТ і блізка не падпусьцяць. Занадта яна, так бы мовіць, украінская, каб сьпявала на такім нацыянальным тэлебачаньні.

### «ВИБРАНЕ. 1989 - 1997». Група «Мертвий півень». (р) 1998.




Альбом складаюць лепшыя, трэба думаць, песьні рэдкай украінскай птушкі. Усё мусіць з-за таго, што стылістычна музыка групы аж занадта стракатая: тут табе і рэпавыя кавалкі, і такі софт-поп-рок, і баляды, і нават песьні, якія, пры невялікім намаганьні, можна было б аднесьці да ліку песень акторскіх. На маю думку, усё гэта можа быць у рэпэртуары адной групы, але толькі пры наяўнасьці больш строга вытрыманай стылістыкі. Вялікі плюс «Пеўня» ў тым, што запісы здаліся мне высокай якасьці, хоць самі аранжаваньні, як падалося, не пазбаўленыя некаторых ня надта неабходных «штучак». Усе сьпяваюць і ўсе іграюць. Дастаткова весела. Вось і незразумела: а чаго ж тады певень здох?

### «ШАБАДАБАДА». Група «Мертвий півень». (р) 1998.




Прыкметных зьменаў у манеры групы ў гэтым альбоме проці «Выбранага» не назіраецца, хоць тут музыканты дэманструюць больш адчувальнае стылёвае адзінства. Крыху мякчэйшым зрабілася гучаньне, але мэлёдыі паранейшаму ня вельмі выразныя. Яны хіба і не прэтэндуюць на шлягернасьць. Магчыма, менавіта з-за гэтага цэлае гучыць ці не аднастайна. Так сказаць, музыка на аматара. З усяго запісанага зьвяртаюць на сябе ўвагу песьні «Б'ютифул Карпати» (рэтра-рэмікс), новае аранжаваньне цікавай песьні «Франсуа» з рэпэртуару эстраднай зоркі Ірыны Білык, а таксама песьня «Рэвэтастогне», але ўжо ў зусім іншым сэнсе: яе аранжаваньне — «ны ў яку браму», як той кажа. Праўда, магчыма я нешта не дагнаў.

Што да манеры, дык адзіным творам, які выбіваецца з цэлага, зьяўляецца песьня «Старенький трамвай», вытрыманая ў нечаканым рокавым стылі. Цікава, чаму трамвай старэнькі, а не мярцьвенькі?

### «ЗРОБИ МЕНІ ХІП-ХОП». Група «Танок на майдані Конго». (р) 1998.




Слаба ведаю рынак беларускага гіп-гопу, а тым болей — расейскага, але мне здаецца, што нічога падобнага няма ні тут, ні там. «ТНМ Конго» — гэта сьцёбная, неверагодна энэргічная і вясёлая каманда, удзельнікі якой да таго ж маюць здаровы і дасьціпны гумар, што ўмела ўвасабляюць у музычным матэрыяле. Класныя кампазытары і фантазёры, атамныя выканаўцы, у якіх ніводная кампазыцыя па вырашэньні не падобная да другой. Усе нумары праграмы перамяжаюцца нацыянальна-дасьціпнымі дыялёгамі-ўстаўкамі, а своеасаблівы жаргон альбому тлумачыцца надрукаваным на ўкладцы слоўнікам, зь якога вынікае, што слова «зусман» мае тое ж значэньне ва Ўкраіне, што і ў Беларусі.

Не, вынаходлівасьць удзельнікаў «Танка» ацэніць нават той, хто да гіп-гопу ставіцца цалкам нэўтральна. Такія нумары, як загалоўная песьня, «Бомбіні» (з цытаваньнем славутага шлягера Мірэй Мацье), «Джазі» (твор з класычным джазавым фартэпіяна) падымуць зь месцаў найбольш абыякавых людзей, хоць бы такіх, як удзельнікі нацыянальнага сходу. Ото была б дыскатэка: мёртвыя пеўні на майдане ў Конга!

### «WITH A LITTLE FRIENDS FROM MY HELP». Група «Сігал Спожив Спілка». (р) 1996.

Гэты альбом зьяўляецца сольным праектам гітарыста групы «Мертвий півень» Рамана «Сігала» Чайкі. Па праслухваньні складваецца ўражаньне, быццам лідэр праекту паставіў на мэце ў рамках адной праграмы памацаць літаральна ўсё, што гучыць наўкола. Так, песьні «Зоопарк» (антыдыска мікс) папярэднічаюць уступныя такты Першага канцэрту для фартэпіяна з аркестрам Чайкоўскага. Сама ж песьня ўзятая з папярэдніх праграмаў «Піўня». Імкненьне ахапіць у цэлым неахопнае найбольш яскрава дэманструе песьня «Перше квітня». Пакальна, што пасьля расплывістай па музыцы і форме песьні «Люблю» гучыць раптам твор, вытрыманы ў стылі ці не клясычнага кантры, па чым зноў пачынаецца нейкі аблегчаны (ад слова «лягчаць») Чайкоўскі перад іншай вэрсіяй (параноя-мікс) таго ж «Зоопарку». Альбом запамінаецца хіба даволі ўдалай балядкай «Гаспид, або ж Дідько». Усё ж цэлае — нейкі такі экспэрымэнт, скіраваны, бадай, выключна на самога аўтара ды кола яго ных найбліжэйшых сяброў.

### «ЧОРНА РІЛЛЯ». Група «Вій». (р) ~ 1993.

Мне так здалося, што ў музыцы гэтага калектыву экспэрыменту засталося больш, чым уласна музыкі. Ня ведаю чаму, але сярод усіх тых касэтаў, што трапілі да мяне, даволі шмат калектываў, якія тэматычна зьвяртаюцца ці то да Бога, ці то да нейкіх ледзь не язычніцкіх матываў. Істотнае ж — музыка. У групы «Вій» яна ня дужа арыгінальная, змрочная па тэмбрах і ў цэлым даволі лёгка укладаецца ў паняцьце «софт-року», толькі што з гэткай афарбоўкаю ў «блэк». Выконваецца ўсё ладна, з разуменьнем, але як на мяне, дык ня надта ўзьдзейнічае. Больш на аматара нечага такога напаўзамагільнага, патойбаковага.

### «ІДОЛИ». Група «Swift». (р) 1996.

Гэтая праграма мяне расчаравала. Перш за ўсё таму, што ўласнага ў музыцы групы няшмат: найхутчэй, музыканты «Свіфту» скарысталі папулярную на Захадзе і правераную ў шоў-бізнэсе мадэль (прыкладам, «Depeche Mode»), разьлічваючы на тое, што пры ўмове пераносу яго на родную зямельку посьпех будзе загадзя гарантаваны. Э, не, хлопцы! Мы даўно, яшчэ ў 1917-м, пайшлі ўласным шляхам, першакрыніцы чытаць трэ было ўважліва. Зьлепак заўсёды будзе толькі зьлепкам, копіяй, як ты ні рупся напоўніць усё тое нечым арыгінальным. Адзначу добрую рытмічную аснову песень, якім, тым ня менш, не стае мэлядызму. Адзначу таксама часам проста фатальны вакал, які, магчыма, і выклікаў перш за ўсё адмоўныя эмоцыі. Калі гэтак сьпяваецца ў студыі, можна толькі ўявіць, які ж гэта «вакал» пад час канцэрту.

### «МОЯ КОХАНА». Леся Герасимчук і «Драглайн». (р) 1995.

Даволі наіўцямны, як мне падалося, праект, музыка якога збольшага заснаваная на пэўных рэштках панку, хоць даволі актыўнае выкарыстаньне духавых выдае значна больш шырокае поле інтарэсаў гэтых музыкаў. На ўспрыманьне музыкі нэгатыўна ўплывае ня лепшая якасьць гуку. Тэксты песень з пэўным гумарам-прыколам, але ў цэлым стварыць яскравае аб сабе ўяўленьне музыкі ня здолелі. Ці то гэта вельмі маладая група, салістцы якой варта было б папрацаваць з пэдагогам над вакалам, ці то з тых калектываў, для якіх «Моя кохана», што называецца, апошняя надзея выскачыць замуж.

### «ДОБРЕ». Група «Плач Єремії». (р) 1998.

Гэтая група — зь ліку тых, якія здольныя выклікаць пэўны інтарэс даволі шырокага кола слухачоў, хоць пры гэтым ніколі ня будуць звышпапулярнымі. Стыльнае выкананьне, пастаўленае, адточанае ды мяккае гітарнае гучаньне, тэксты бяз глупстваў ды пустых словаў, добрая якасьць запісу. Нехта скажа — аднастайна, але я таго асабліва не адчуваў, слухаючы песьні розных гадоў (ад 1987 па 1997), сабраныя на альбоме, які, трэба думаць, быў выдадзены акурат да 10-годзьдзя Ерэміі. На альбоме ёсьць што паслухаць: крыху сьлязьлівую, затое запамінальную па мэлёдыі «Вона», ладна выкананую «Коридор», проста прыгожую ды адначасова вельмі рокавую «Срібне поле» з тонкай партыяй трубы. Альбом не са звышяскравых, але з працоўных ды заслужаных.

Хахляпуты Слухач

навіны

## Сільнова ў Інтэрнэце



Кніжны клюб ТБМ стварыў сваю віртуальную палічку ў Інтэрнеце (па адрасе http://tbm.org.by). На ёй будуць прадстаўленыя мастацкія творы, якія пакуль не знайшлі сабе выдаўца. У Нацыянальнай бібліятэцы прайшла прэзэнтацыя першай кнігі ў гэтую калекцыю — зборніка вершаў Людкі Сільновай "Зеленавокія воі і іх прыгажуні". Кніга ўяўляе галерэю вершаваных партрэтаў 25 беларускіх пісьменьнікаў, "якія маюць зялёныя вочы". Некаторыя з тэкстаў неўзабаве можна будзе праслухаць праз Інтэрнэт у выкананьні самой аўтаркі.

## Нягоды «муміфікатара»

Міністэрства культуры не дало дазволу на правядзеньне фэстывалю "Дзень муміфікатара", які меўся адбыцца ў тэатры "Вольная сцэна" 27 сакавіка. Раней, 4 сакавіка, суполцы "Новы Фронт Мастацтва" гарвыканкам забараніў правесьці яго ў Берасьці. Беларускія авангардысты спадзяюцца цяпер, што "Дзень муміфікатара" нарэшце пройдзе ў клюбе "4 апэльсыны".

## Швед доўга жыць будзе

У Доме літаратара прайшла вечарына, прысьвечаная 75-м угодкам паэта зь Беластоку Віктара Шведа. Выдавецтва "Полымя" выпусьціла перакідны каляндар на 2000 год ("Біблейскія гравюры Ф. Скарыны"), дзе паведамляецца, што Віктар Швед ужо два гады як памёр. Можа, таму паэт чытаў са сцэны сумныя, трагічныя вершы, але ён яшчэ поўны сілаў: ягонай малодшай дачцэ толькі 10 гадоў.

Юрась Барысевіч



## «Наддзьвіньне»

У Полацку пабачыў сьвет літаратурны альманах «Наддзьвіньне», які выдала аднайменнае літаб'яднаньне. Укладаньне зрабіў празаік Герман Кірылаў. У 1926 годзе альманах з гэткай жа назвай выдала полацкая філія «Маладняка». Зборнік сёньняшні чыста паэтычны. «Маладнякоўцы» ж у сваім выданьні досыць шырока прадстаўлялі прозу, нават надрукавалі аповесьць Сымона Хурсіка «Францішак Скарына». Варта было б зьмяшчаць і ў цяперашнім альманаху і эсэістыку, і літаратурную крытыку.

Васіль Кроква

# ВЫСТАВА, ШТОГОД УСЁ БОЛЬШ ПАДПОЛЬНАЯ

***Штогод суполка мастакоў "Пагоня" ў Палацы мастацтваў ладзіла свае выставы, прысьвечаныя Дню Волі. Сёлета, як і летась, улады не дазволілі паказу твораў да 25 сакавіка. Прычына — палітыка.***

Выстава ўсё ж адбудзецца ў Палацы мастацтваў, але толькі 14 красавіка (загадзя анансаваны пачатак а 17-й). А пакуль невялічкая частка экспазыцыі рэпрэзэнтаваная ў сядзібе Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" (Варвашэні 8). 22 сакавіка адбылося адкрыцьцё з удзелам мастакоў Аляксея Марачкіна, Віктара Маркаўца, Алеся Пушкіна і Алеся Шатэрніка. Аляксей Марачкін быў у гуморы й больш гаварыў пра тое, што будзе: "Тут збольшага творы мінулых гадоў, а ў Палацы мастацтваў нас чакае шмат сюрпрызаў". У сядзібе БНФ выстаўленыя партрэты Стэфаніі Станюты, Рыгора Барадуліна, Васіля Быкава работы С.Ткачэнкі, краявіды А.Марачкіна, У.Грыцкевіча, А.Шатэрніка (абуджальны настрой ягонага пэйзажу "Сакавік" асабліва актуальны), У.Васюка. Асобна стаіць праца Юр'я Піскуна — партрэт Івонкі Сурвілы на тле бярозак (добры абраз, толькі незразумела, чаму на тле бярозак і чаму спадарыня Сурвіла гэтак падобная, паводле заўваг шматлікіх гледачоў, да тавapышa Крупскай?). Клясычнае аблічча беларуса-змагара паўстае ў Уладзімеру Пракулевічу — удзельніку Слуцкага збройнага чыну 1920 году: дзядзька Ўладзь узіраецца ў прышласьць, а па-над ім праз хмары рвецца сонца. Варта лішняга разу згадаць мясьціны, зьвязаныя з абвяшчэньнем незалежнасьці Беларусі ў 1918 годзе, але дзеля таго не абавязкова ісьці да дому на колішняй Серпухаўскай (цяпер Валадарскай — як шмат зьвязана з гэтай вулкай!), дзе прымалася III Устаўная грамата Рады БНР, ці да пляцу Волі, дзе ў Доме губэрнатара пэўны час месьціўся Народны сакратарыят Беларусі — варта зірнуць на два графічныя творы Віктара Сташчанюка, у якіх з дакладнасьцяй да драбніцаў аднаўлены выгляд тых будынкаў і дух часу.




Безумоўным "гітом" выставы стаўся "Мірон" А.Марачкіна: чалавек сьпінаю да гледача вешае на высакавольтных лініях, што мігаюцца разрадамі, наш сьцяг. Побач радкі Рыгора Барадуліна: "Дрыжэце і калхозны трон, і падхалімскія капэлы, калі вывешвае Мірон сьцяг родны бел-чырвона-белы".

Абяцаў пацешыць "гітом" і славуты Алесь Пушкін, але трохі пазьней — на выставе ў Палацы мастацтваў. Казаў, што прывязе палатно 2,7 на 2 мэтры й зладзіць пэрфоманс на тры хвіліны. Сп.Пушкін нават апісаў свой грандыёзны абраз: "На тле зімовага краявіду — здань, рэчка, паляўнічыя ловяць аленяў і дзікоў, бабулькі зьбіраюць гальлё. Здань распасьцерлася над усім краявідам: праз яе відны цэрквы, дамкі, людзі. Здань палае. Унізе пажарныя спрабуюць яе патушыць, тамсама яе блякуюць людзі ў паўсфэрах, з дубінкамі й шчытамі — яны мітусяцца, як ліліпуцікі..." Як гэта выглядае — пабачым на выставе 14 красавіка.

Віктар Мухін

дзёньнік з нутраных войскаў

# СІВЕР

Праз пару дзён пасьля прысягі вучэбныя роты былі расфармаваныя, а я ў ліку двух дзясяткаў чалавек з Баранавічаў быў разьмеркаваны ў адзін з батальёнаў нутраных войскаў, што месьціцца ў горадзе Н. Едучы ў Н., сэрца гістарычнай Літвы, я цьмяна ўяўляў сабе абавязкі надалей. На курсе маладога ваякі нас былі пужалі службай вышкароў (то бок ахоўнікаў зоны на вышках), баялі байкі пра неспакойны нораў вязьняў, якія, маўляў, калінікалі шпурляюць у бок вышак усялякую трасу накшталт так званых заточак. Камандзіры Н-скага батальёну адразу паспрабавалі згасіць падобныя ўяўленьні. Зрэшты, даводзілі да ведаму розныя выпадкі, што здараліся раней і былі пэўна выняткамі з агульнай плыні смутнацелых правілаў. Прыкладам, у прамысловай частцы Н-скай калёніі суворага рэжыму зэкі аднойчы прымацавалі ў шчамлёткі прыдбаны недзе патрон. А як што вокны цэху выходзілі проста на вышкі, кемлівыя вязьні скіравалі шчамлёткі ў бок вышкара ды байданулі па пятцы патрона малатком. Грымнуў стрэл, ад якога вышкар ледзьве не нарабіў у порткі. Гэта было даўно. Нядаўна ж, кажуць, на адной з зонаў выявілі пару самаробных аўтаматаў, што па сваіх характарыстыках не саступалі ізраільскім «Узі», нават перасягалі іх. Насельнікі калёніі людзі ўмелыя. Добра, што гэтай халеры не знайшлося ўжытку.

Рыхтуючыся да службы на вышцы, трэба ясна здаваць справу з таго, што раней ці пазьней можа надарыцца момант уцёкаў, якія трэба перапыніць. Перапыніць зброяй. То ж варта быць псыхалягічна падрыхтаваным страляць у чалавека, хаця б і асуджанага. Камандзіры даводзяць, што на ўцёкі торгаецца толькі ўсялякая плюга-мярзота. Накшталт тых, хто атрымаў вялізныя тэрміны. Але ж нярэдка спробы ўцячы робяць і тыя, хто прайграўся. За гэта ім касуюць віну. Нам жа за перапыненыя ўцёкі мусяць даваць крыж МУС Беларусі «За самаадданую службу» ды дзён 10 адпачынку. Як жартаваў старлей К., «можна настраляць і на цэлы месяц». Галоўнае — правільна ўжыць зброю, а то сам можаш апынуцца па той бок «лініі аховы». А гэта ўжо будзе ня цукрам і нават не гарчыцай. За кратамі былому ахоўніку гамон.

Салдацікі трапляюцца самыя розныя. Адзін на недалёкай зоне застрэліў сябе ўжо па першым самастойным нясеньні службы на вышцы. Высьвятляць сталі і высьнілі, што хлопчык сам сабой сатаністам быў, да войска ў сшытках ўсялякіх чорцікаў-дэманаў маляваў з адпаведнымі слоўнымі атрыбутамі. У Н-скім жа батальёне імкнуцца ўнікнуць такіх калізіяў. Падазроных «схільнікаў да самагубства» ў караўл не пускаюць, пакідаючы на гаспадарча-кухонных справах. Каб палічылі цябе гэткім схільнікам, дастаткова ўсяго нейкай драбніцы. Адзін дык на шкле вышкі пальцам нейкі мэлянхалічны вершык вывеў, за які яго перасталі дапушчаць у караўл. Акром таго, перад выходам на сёдні ў караўл (ці, як тут кажуць, «да каровы») салдатам ніколі не выдаюць пісьмаў, каб тыя не засмуцілі іх і не выклікалі суіцыдаў весткамі пра шлюбы сябровак, цяжарнасьці тых самых сябровак ад іншых ці яшчэ якіх-кольвек неспадзяванак з цывільля. Паколькі мусяць усе за малым выняткам мець справу з баявой зброяй, «нестатуцыя» бытуе тутака ў мяккіх, але даволі-ткі подлых па сутнасьці формах. Нам, новаму прызыву, спрабавалі грузіць пра «сямейсцьвеннасьць». Знайшлі чыстыя вушы для жоўтай локшыны! Адзінае, што сапраўды падабаецца мне з тутэйшых традыцыяў, дык гэта прывітаньне ў батальёне зьвязу, што вярнуўся з караўлу, поціскамі рук. Нармалёвая мужчынская завядзёнка, толькі ня ўсе яе ўспрымаюць па-сур'ёзнаму. Гэта й бянтэжыць, як той халодны паўночны вецер, што выдувае цяпло з казармы Н-скага батальёну, якая месьціцца на ўзгорку над «падапечным» аб'ектам... Халодна.




Сяргей Лобан

# ВІЛЕНСКІЯ НАСТРОІ

Уладзімер СОДАЛЬ

Францішак Багушэвіч вярнуўся на Віленшчыну з Украіны 25 сакавіка 1884 году, акурат на Зьвеставаньне. Пра гэта ён сам так напісаў: «Прыбылі мы сюды на Зьвеставаньне 1884 году, як буслы...»

Радаснае гэта было вяртаньне. Але меней як праз год Францішак пісаў Яну Карловічу: «...нейкі дзіўны настрой прыгнятае мяне: пакуль я быў далёка ад радзімы і ад сваіх, хацеў нібыта таго біблейнага збавеньня, быць тут, а сёньня... ня бачу сваіх і шукаю іх ва ўспамінах. Што гэта?

Дзе тое, чаго я шукаў, і дзе тыя берагі, за якія ня будзе сягаць туга? Скуль жа той незразумелы настрой душы, тое неспатольнае жаданьне чагосьці?.. Гэта павінна азначаць, што я ня ўмею жыць рэальнасьцю, але прызнацца ў гэтым не хачу! Д'ябал ведае; ці гэта зброя творчай фантазіі, ці яе выдаткі?

Я заўсёды ўяўляў, а сёньня цешуся тым пераканаflньнем, што не хачу быць і ня стану эгаістам. І чаму ж не хачу прыстасавацца, зьнікнуць, як кропля ў моры, а змагаюся, як астрыга ў воцаце, зь якім яе спажываюць?

Так, ласкавы пане, я пакінуў службу, уцёк даволі мужна, хоць мяне не выпіхалі, а трымалі за крысо. Я адмовіўся там хоць ад малога, але ад пэўнага кавалка хлеба дзеля невядомасьці тут. Ведаю, што матэрыяльна і тут ня будзе мне найлепей, па 1-е, дзеля таго, што за гэтым я ніколі ня гнаўся, а па 2-е, дзеля таго, што няма ў мяне цягліц і іншых органаў п'яўкі, якімі зазвычай так шчодра адораныя адвакаты. (Цырульніка пазнаеш па п'яўках!) Аднак жыць магу і буду, бо, маючы жонку і дзяцей, мушу». Такі настрой апанаваў Францішка Багушэвіча амаль на самым пачатку 1885 году. Не пакідала расчараваньне жыцьцём у Вільні і ў наступныя гады і месяцы. Літаральна праз тры месяцы Францішак Багушэвіч зьбіраўся пакінуць Вільню, пераехаць у Расею, дзе яму давалі месца. «Хоть дым отечества сладок», — іранізуе паэт, — аднак пра яго харчовыя якасьці маўчаць прыказкі».


Францішак Багушэвіч, адвакат, у сваёй віленскай кватэры на вуліцы Коннай у доме лекара Казлоўскага. 1890 г. Перад пераездам у Кушляны.

Чым жа расчаравала Вільня таго, хто прагнуў яе? Здаецца, напачатку ў горадзе свайго юнацтва ўсё ў яго складвалася няблага. Меў, паводле яго ж словаў, «за кліентамі палову Вільні і ваколіцаў». І ўсё ж расчараваньне: «Хаджу сабе і думаю, а што думаю, сам ня ведаю...»

Вось такая неакрэсьленасьць і няпэўнасьць праходзіць праз шматлікія Багушэвічавы лісты да Яна Карловіча. Здавалася, вось-вось і Францішак пакіне Вільню.


Вуліца Конная. На гэтай вуліцы пасьля вяртаньня з Украіны пасяліўся зь сям'ёю Францішак Багушэвіч. Дом лекара Казлоўскага месьціўся пад левы канец вуліцы. Ад права, дзе цяпер невялікі пляц, якраз калісь і быў віленскі конны рынак.

Але не, не паехаў. Мо знайшоў агульную мову з тымі, у кім, вярнуўшыся з Украіны, расчараваўся?

Чаму ж, на якім грунце адбылося расчараваньне? Можа тыя, каго Багушэвіч лічыў сваімі, за сваіх, здрадзілі ідэалам юнацтва? Бо нешта ж значаць ягоныя словы: не хачу быць і ня стаў эгаістам; не хачу прыстасавацца, зьнікнуць, як кропля ў моры; няма ў мяне цягліц і іншых органаў п'яўкі, якімі зазвычай так шчодра адораныя адвакаты.

Гэтыя развагі, мусіць, былі якраз тымі яго расчараваньнямі, якія змушалі Францішка Багушэвіча шукаць прытулак для свае душы па-за межамі Вільні, Віленшчыны. Пасьля гэтае пачуцьцё трохі сьціхне, запануе ў ім філязофія помаўкі: «Ат! Неяк будзе! Якось яно будзе». Гэтай помаўкай Францішак Багушэвіч карыстаўся вельмі часта. Пэсымістычны настрой не пакідаў Францішка Багушэвіча ні ў сьвята, ні ў будзень. Азіраючы пражытыя гады, першага студзеня 1888 году Францішак Багушэвіч пісаў: «Мабыць, ніхто не глядзіць на тыя мінулыя гады з такой кіслай мінай, як я, які гэтулькі страціў іх бязь сьледу: увесь час прамываў цукар у вадзе, як дурны. Калі б я ведаў, што хоць адзін год цэлы будзе такі, якіх было шмат — не чакаў бы! Зрэшты, паводле Эвангельля: «Цярпеньне дае надзею, а надзея — ня ганьба».

## Людзі і коні...

Францішак быў шчыры, калі пісаў: «Не люблю я места /па-расейску — горад/. Надта там цяснота і вялікі сморад».

Жывучы ў горадзе, ён стараўся знайсьці сярод камяніц які-небудзь зялёны куточак.

Гэтак было і ў Вільні. Вярнуўшыся з Украіны ў 1884 годзе, ён аблюбаваў зялёны дворык пана Казлоўскага з драўляным зграбным дамком на вуліцы Коннай. Поблізу быў рынак. Колісь на ім прадавалі сена, коней, то яго і назвалі Конным рынкам. З гэтай назвы і назоў вуліцы (сёньня па-літоўску *Arkliu*). За Багушэвічавым часам гэта ўжо быў Збожжавы рынак.

Жывучы поблізу такога рынку, Францішку даводзілася назіраць самыя неверагодныя здарэньні. Аднаго разу ён быў сьведкам, як некалькі бамбізаў кінуліся да селяніна, які ішоў побач з возам. Бамбізы гэтыя загадалі зьвярнуць воз убок, і давай селяніну нешта наперабой гаварыць. Гаварылі доўга. Селянін змусіў зьняць шапку. Пасьля доўга корпаўся за пазухай. Нарэшце выцягнуў адтуль каліту і паклаў у руку нешта аднаму з бамбізаў. Той узамен спрытна наклеіў на дугу чырвоную паперыну і зьнік. Гэтак віленскія бамбізы зьбіралі брамны падатак з фурманак, якія прывозілі на рынак прадукты. Недасьведчаным людзям тая тузаніна была незразумелая. Дый і дасьведчаных бянтэжыла. Бянтэжыла яна і Францішка Багушэвіча. Іншы раз ён ня мог стрымацца і мусіў заступацца за няшчасных сялянаў. Такія сцэны з брамнымі падаткамі Францішку даводзілася назіраць досыць часта. Гэты падатак, паводле Багушэвічавых словаў, яшчэ называлі «капытным». Іншым разам такі збор заканчваўся гулкім ляшчом. Мэтода збору падатку выклікала ў Багушэвіча абурэньне, і ён не адзін раз зьвяртаў увагу тагачаснай грамадзкасьці на шарлятанства падаткаў. Багушэвічава суседзтва з рынкам давала яму шмат і іншых назіраньняў. Часта ён тут спатыкаў сялянаў з-пад Смаргоні, з Кушлянаў. Празь іх дачуваўся пра навіны на сваёй Бацькаўшчыне. Гэта неяк лагодзіла ягоную душу і сэрца, здымала зь яго якуюсь напругу, якуюсь настальгічную нуду.


Францішак Багушэвіч пад час заканчэньня Віленскай гімназіі.

Дакладную фатаграфію таго куточка, дзе жыў Францішак Багушэвіч у Вільні на Коннай вуліцы, даў нам віленскі журналіст Напалеон Роўба:

«Аднапавярховы дом на рагу вуліцы Коннай, што прылягаў да базару, складаўся зь некалькіх лепшых кватэр і цэлага шэрагу меншых, якія злучаліся з дваром заезнага дому для сялянаў.

Адну з кватэр ад вуліцы Коннай займаў Ф.Багушэвіч з жонкай і двума дзецьмі. Лёгка было распазнаць гэтую кватэру, бо асабліва ў базарныя дні каля яе парогу ажно раілася ад сялянаў...»

## Багушэвіч сказаў не...

Напрыканцы стагодзьдзя ў многія гарады Расейскай імпэрыі пачаў прыходзіць трамвай. Гэтая навіна выклікала ў месьцічаў шмат самых розных размоваў. Адны цешыліся, радаваліся, захапляліся, зь нецярплівасьцю чакалі гэтай падзеі. Іншыя, найперш возцы, рамізьнікі, бачылі ў трамваі свайго канкурэнта. У трамвайныя размовы ўцягваліся і людзі іншых заняткаў.

З 1887 году пачалі гаварыць пра пабудову трамваю ў Вільні. Вестка гэтая нікога не пакінула абыякавым. Адгукнуўся на яе і Францішак Багушэвіч:

«Нарэшце мясцовыя ўлады канчаткова зацьвердзілі ўмову з падрадчыкам на правядзеньне трамвайнай лініі ў Вільні. Як кожнае паляпшэньне камунікацыйных шляхоў наагул, гэтая зьява дадатная, а таму жаданая, аднак выклікае сумненьне, ці прынясе трамвай карысьць у Вільні: тыпова, як у старым горадзе, вуліцы тут крывыя і вузкія, таму не на ўсіх іх трамваі змогуць курсіраваць. Вільня — горад невялікі: ад адной ускраіны (напрыклад, ад жалезнага мосту) да другой (да Вільні) можна прайсьці пешшу за 16 хвілінаў. Далей нібыта месьціцца раён гораду Зарэчча, але ён злучаны толькі адным мостам з цэнтрам, таму ня можа наблізіць яго і трамвайная калея. У такіх умовах трамвай мала прынясе нам выгоды ці карысьці, адсутнасьць жа гэтага віду камунікацыі ня вельмі адчувальная. Затое трамвай пазбавіць шмат якіх рамізьнікаў (хоць хто там вельмі дбае пра лёс нейкіх рамізьнікаў!) кавалку хлеба; затое гараджане, якія дагэтуль ахвотна рабілі невялікі шпацыр, панясуць свае дзясяткі ў кішэню падрадчыка; затое на цесных, крывых і ўзгорыстых вуліцах шмат будзе няшчасных выпадкаў!.. Неяк будзе!»

Думка гэтая была слушная. Мусіць, гэтак думалі і бацькі места, і іншыя віленцы, і ад думкі пра пабудову трамваю ў Вільні адмовіліся. Не вярталіся да гэтай думкі і ў пазьнейшыя гады. Гэтак Вільня і засталася без трамваю. Адну пару бегалі гулка па вузкіх крывых вуліцах конкі, а вось да трамваю так і не дайшлі. І ўсё ж тэхнізацыя не абмінула Вільню. Цяпер па ёй шыбуюць абкругленыя, як яйкі, вёрткія тралейбусы.


Віленскі музэй старажытнасьцяў. Ствараць яго дапамагаў і шаснаццацігадовы юнак з Кушлянаў. Музэй месьціўся ў мурох гімназіі.



## НАПАЎЗАБАРОНЕНЫ БАГУШЭВІЧ

У кінатэатры “Зьмена” аншлягу, што здарыўся 21 сакавіка, на вечарыне, прысьвечанай угодкам Францішка Багушэвіча, ніхто не чакаў. Тых, каму не дасталася вольных месцаў, хапіла б яшчэ не на адну такую залю. Каб не расчараваць наведнікаў, вырашылі паўтарыць імпрэзу праз дзень, у зьмененым выглядзе.

Вечарыну ладзіла ТБМ. Паказалі фільм Міхала Жданоўскага “За Кушлянамі — сьнег”, выступіў дырэктар музэю-сядзібы ў Кушлянах Алесь Жамойцін. Сьпявалі фальклёр-тэатар “Госьціца”, якім кіруе Ларыса Сімаковіч, саліст ансамблю “Сьвята” С.Статкевіч. Сьпеўны гурт на чале з знаным фальклярыстам і музыкам Алесем Ласём выканаў вясельную песьню, запісаную на радзіме паэта.

Скульптар Леў Гумілеўскі прывёз на вечарыну макет помніка Багушэвічу, які мае быць усталяваны ў Смургонях. Аналягічную вечарыну ў Акадэміі Навук правесьці забаранілі.

Ірына Марачкіна






# САБАЧЫЯ ГІСТОРЫІ

Віктар ШНІП

Аднаму сабаку сказалі: «Перастань гаўкаць!» І пайшоў сабака да Граждана, і выпілі яны дыхляфосу, і засьпявалі «Шумеў камыш...»

Адзін сабака захварэў. Жонка выклікала хуткую. Але сабака не пусьціў доктара ў кватэру: «А што, калі гэта прыехаў Граждан?»

Аднаму сабаку ў гражданскім транспарце саступілі месца. Сабака сеў і сказаў: «Яшчэ сярод нас ёсьць сапраўдныя Гражданы!»

З аднаго сабакі сьмяяліся. І толькі Граждан казаў: «А мне нясьмешна...»

Аднаму сабаку перадалі з Амэрыкі сто даляраў. А Граждан ужо даўно жыў за кошт немцаў.

Адзін сабака цэлую ноч сьніў Парыж. Выйшаў раніцай на менскую вуліцу і сказаў: «Гражданы! Мне дым Атечества так сладак и прыятен!»

У аднаго сабакі была сястра. А Граждан быў стрыечным сынам турэцкападданага штандартэнфюрэра Штырліца.

Адзін сабака парэзаў палец. Выбег на балькон і закрычаў: «Таварышы! Гражданы! Мяне рэжуць!»

Адзін сабака захацеў папіць з лужыны. І толькі ён нахіліўся над вадой, як пачуў: «Ня пі, Гражданом станеш...»

Да аднаго сабакі прыстаў Граждан: «Купі слана...» Пачуў гэта міліцыянт: «Не паложана!» А Граждан і прызнаўся: «Мяне ніхто ня любіць...»

Адзін сабака захацеў пайсьці пад ваду. Прыйшоў на мост празь Сьвіслач, разагнаўся і скочыў пад ваду. А там Граждан ужо сядзіць і на гармоніку грае.

Да аднаго сабакі прыйшоў Граждан зь міліцыянцкай дубінкай і кажа: «Стукні мне пару разоў, а я заўтра пайду і пабоі здыму...»

Аднаму сабаку не было дзе жыць. І ён жыў у Граждана.

З аднаго сабакі Граждан намаляваў карціну. Сабралася народу. А Граждан выйшаў і сказаў: «Я паіць вас ня буду!»

Пра аднаго сабаку Граждан прачытаў у энцыкляпэдыі: «Сабака звычайна мае чатыры нагі, два вухі, у носе дзьве дзюркі, у роце куча зубоў...» І стала Граждану шкада сабаку, якога ён учора выгнаў з кватэры.

Аднаму сабаку прызначылі пэнсію. Як Граждану.

Аднаго сабаку прывялі на вочную стаўку з Гражданом. І сабака прызнаўся.

Адзін сабака купіў білет на самалёт. Прыехаў у аэрапорт, а там напісана: «Вас абслугоўвае Гражданская авіяцыя».

З аднаго сабакі на скуралупні злупілі скуру. Ляжыць сабака бяз скуры і думае: «Гэта ж трэба. І тут Гражданы!»

Адзін сабака напісаў запавет: «Калі траплю пад колы машыны, прашу лічыць мяне Гражданом!»

## ад гражданоў

*Адзін Граждан брахаў кожны дзень, а ягоныя сабакі Казіят і Зімоў — па суботах і нядзелях.*

**Ігар Шведка, Менск**

*Прыехаў Граждан у Расею, а там — адны сабакі.*

*«Не брашы», — думаў сабака, слухаючы Граждана.*

**Aleks, Менск**

## паштовая скрынка

**Максіму Ш. зь Менску.** *«Чытайце і будзьце разумнымі беларусамі», — цытуеце Вы «НН». А самі кладзецеся ў зручную пазыцыю гэткай правінцыйнай Сыбілы — на запечак, патэльню дранікаў і збан сьмятаны пад бок, і ну круціць галавою. Маўляў, зразумець да канца, што адбывалася ў мінулым, мы ня можам. Зьмяніць нешта ў сучаснасьці немагчыма. Абдумваць і выбіраць варыянты разьвіцьця няма сэнсу, бо ўсё адно гісторыя ідзе па замкнёным коле. Апроч карэннай антынавуковасьці такога падыходу, у ім адчуваецца ўплыў расейскай гістарыяграфіі, якая глыбака прачула бездапаможнасьць расейскага народу ў гісторыі сваёй краіны і думае, што як у іх, так і ва ўсім сьвеце. А беларуская гісторыя разьвівалася зусім ня так, як расейская.*

**Ніне Б. зь Менску.** *Мы з павагай ставімся да Вашых патрыятычных перакананьняў, але ліст друкаваць ня будзем — не адзін Салавей у Менску.*

**«ГК» зь Менску.** *Мова мусіць быць адпаведная. Максымальна ясная і сьціслая. Ведаеце, добрая мова — гэта як добрая канспірацыя. Яна мусіць быць беззаганная, ясная, прадуманая. І ніколі не бывае лішняя.*

**Яўгену Л. зь Менску.** *Сьмешна. Але завялікі для такой дробнай тэмы матэрыял. Скараціце да 2—3 старонак.*

**Ігару П. з Магілёва.** *Які ж далейшы лёс Сьцяпанава? А выпускнікоў гэтага мэдінстытуту? Ці ведаеце Вы нейкія драматычныя ці камічныя моманты зь ягонае гісторыі? Ці зьвязваліся зь менскімі дасьледчыкамі дзейнасьці інстытуту? Нас цікавіць гэта.*

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

Віншую **Ігара Кавалеўскага** з нараджэньнем дачкі. Алесь

**Ірэну і Зьмітра (Дзям'яна)** віншуем зь вясельлем, зычым шчасьця! Сябры

**Марынку і Зьмітра (Дзіму)** віншуем зь вясельлем і зычым шчасьця! Сябры

**М-к!** З Днём Анёла цябе. Ты самы лепшы. Жыві на дабро і волю. А-ка

**Свайго любага М-ка** віншую з Днём народзінаў. Я ў цябе веру. А-ка

**Харошую дзевачку Насту Бароўскую** віншую з Днём нараджэньня і «Адраджэньня». Спыні сваю дзікую ***Скочку***! Наталька Базылевіч

**Віншую Машу Свабодную** зь непаўнагодзьдзем. Жадаю не трапляцца, але патрапляць (ты ж снайпэр!). Пакуль Таксама Свабодная Наталька Базылевіч

**Віншую** Насту з Днём народзінаў. Абяцаю ва ўсім слухацца і падпарадкоўвацца. Яшчэ не народжаны

Настачка! Ты нарадзілася пасярэдзіне паміж Днём Канстытуцыі і Днём Волі! Хто ж яшчэ аб'яднае апазыцыю?

**Віншуем Настачку** з Днём народзінаў і заклікаем далучыцца да нашае партыі. Трэцяй будзеш? Малы ды Наталька

**Супэр-Настачку** з Днём народзінаў і жадаю любіць мяне заўсёды і ўсюды! Ня Вовачка

**Шаноўны Вожык**, давай сябраваць! Сонейка

**Віншуем студэнтаў** 6 групы-1 зь Вясной! Нарэшце яна прыйшла! Троіца

**кантакты**

**Чытачу з Мазыра**, які пісаў пра сабак у тым нумары! Калі хочаш патаварышаваць з аднадумцамі ў сваім горадзе, тэлефануй 3-39-26. Яўген

**Напішы мне, маладая дый прыгожая.** Яўменаў Сяржук, Менск, 220079, п/с 35-4

**Дзяўчына пазнаёміцца** з прывабным, вытанчаным — сапраўдным мужчынам, якому за 25 (водная стыхія). Ваша фота, тэлефон. Алена, 247500, Гомельск. вобл., Рэчыца-7, а/м 78 «Л»

Адгукніцеся, **Ганулька, Аленка, Наталька, Алеся, Людмілка, Люба ці Янка**, якія нарадзіліся ў траўні 1975-га (ліпені, верасьні 1971, 1983) гадоў. А/с 192, 220064, Менск

**Прывабны хлопец пазнаёміцца** зь дзяўчынай. А/с 285, Менск-101

**Сымпатычны беларус пазнаёміцца** з актыўнымі мужчынамі для нячастых сутрэч на маёй тэрыторыі. А/с 78, 220141, Менск

**Буду ўдзячны за інфармацыю** аб дзейнасьці сучасных нацыянал-дэмакратычных і іншых суполак, партыяў. 211030, Орша-16, а/с 207

Маладзёвыя арганізацыі ды прыватныя асобы зь Берасьцейшчыны, ахвотныя ўзяць удзел **у сэмінары Маладога Фронту,** павінны даслаць да 4 красавіка заяўку з інфармацыяй пра сябе на адрас: Менск, Варвашэні 8, або даслаць па факсе (017) 284-50-12

**кнігі, пэрыёдыкі**

Кнігі **па гісторыі Беларусі** куплю. Т.: 214-85-82, Паўлюк

Прадаю кнігу **«Кастусь Каліноўскі. За нашу вольнасьць:** Творы, дакумэнты. — Менск: Бел. кнігазбор, 1999». Т.: 258-43-54, Янка

Куплю **«Энцыкляпэдыю гісторыі Беларусі»** (т.3), **«Энцыкляпэдыю прыроды Беларусі»**, **«Энцыкляпэдыю літаратуры і мастацтва Беларусі»**. Т.: 283-27-34, Фёдар

**Да ўвагі калекцыянэраў!** Ахвотныя атрымаць **газэту «Беларускі калекцыянэр»** № 1 (18), 2 (19) за 1999 г., дашліце замову, свой дакладны адрас і 80 руб. за нумар Алесю Сярожкіну: п/с 46, 211030, Ворша-9. У Менску газэту заўжды знойдзеце ў сядзібе ТБМ (Румянцава 13)

**Вы прамяняеце газэту «Gardarika»** на дзьве звычайныя газэты? — Не! Я выбіраю «Gardarika»! А/с 188, 220082, Менск

Ваша ніва ісьцінная — у **«Нашай ніве ісьціннай»**. Ад Вас — ісьцінныя 30 р. Ад нас — ісьцінная газэта. А/с 169, 220030, Менск

Ахвочыя набыць №1 і №2 за гэты год газэты **«Радавая Беларусь»**, дашліце па 50 р. і па капэрце за кожны асобнік з пазначэньнем патрэбнага нумару. А/с 169, 220030, Менск

Выйшла ў сьвет **газэта «Вольная Беларусь»**. Першы нумар прысьвечаны ўгодкам БНР. Ад Вас — капэрта са зв/а й купон б/а. А/с 40, Віцебск-1

Другі нумар **газэты «Верас»** на 8 старонках. Ад Вас капэрта. 210032, Віцебск, 29-а. Шукаем аўтараў. E-mail: gazeta@veras.f2s.com

**Časopis «Klëk dva»:** hardcore, industrial, dark folk, jazz, gothic, erotyka. A/c 68, 2200315, Miensk

**Рэдакцыя часопіса «Правінцыя»** пачынае маніторынг рэгіянальных выдавецкіх друкаў (беларускамоўныя кнігі, альманахі, часопісы). За кожнае дрэннае выданьне адрасат атрымае часопіс «Калосьсе». Адрас рэдакцыі: «Правінцыя», а/с 14, Полацак-13, 211413

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў — **78** руб.,*
- *звыш 20 словаў — **96** руб.;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява – **45** руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **63** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў мусяць аплочвацца паводле рэклямных расцэнкаў для камэрцыйных аб'яваў.

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

**маркі**

**Прадаю маркі Беларускай Народнай Рэспублікі:** сэрыю з 4 марак, прысьвечаную 40-м угодкам Слуцкага збройнага чыну (1960 г.) і сэрыю з 2-х марак да 450-х угодкаў друку ў Беларусі (1976 г), кошт разам з дасылкай: сума ў БР=1$ і 0,5$ адпаведна. Алесь Сабаленка, а/с 268, 220131, Менск

**музыка, відэа**

Беларускі відэаклюб складае **сотню найлепшых фільмаў XX ст.** Свае сьпісы з пазнакай «Фільмы стагодзьдзя», калі ласка, дасылайце: 220107, а/с 150 або на Lit@aport.ru

**пацучкі**

**Прадаюцца маленькія пацучкі** вельмі прыгожыя (шэрабелыя). Т.: 243-39-00, пасьля 16.30 (паклікаць Галю)

**праца**

**Ангельская мова:** пераклады з/на беларускую, расейскую (магчымы набор). **Заняткі зь дзецьмі** (магчыма па-беларуску). Т.: 262-52-86, Юрась

**А, Б, В, Г, Д,** — з гэтага пачынаецца альфабэт. 249-68-18 — з гэтага пачынаецца твая праца (19.00 — 20.00), Аляксей.

**Дапамагу пачаць** уласную справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а + купон б/а: 220089, Менск-89. а/с 122

**ідэі**

**Аляксандру Старыкевічу.** Пра Дзень Волі пісаць на мове акупантаў? Жахліва! Беларуска

**Маша Свабодная** рызыкуе сустрэць дзень народзінаў у няволі. Не рызыкуй, Маша, а то давядзецца мяняць прозьвішча (ува ўсіх сэнсах). Наталька Псэўданім

**Мяне вуліца Н. чакае,** а ты чакаеш яе. Я свае філязофскія праблемы вырашу, а ці вырашыш ты свае сардэчна-сасудзістыя? Цётка Цётачка

**Калі цябе б'юць па правай шчацэ**, падстаў што-небудзь цьвёрдае. Адмарозак са стажам Наталька Базылевіч

**Прыйшла «Гарачая вясна»**, расталі адмарозкі. І нейкі сумны раптам стаў Сьнягурачка-Зімоўскі. Вясна прыйшла, Зіме — канец! Ён гэта адчувае, наш сьнегаволасны малец, ад страху сам растане. Базыль Наталевіч

**Šavinizm** — heta kali puskajuć u voču «дым отечества». A.Bortniak

**Płyvi na Úschod**, za Suec, tudy, dzie dabrom jošć usiakaje zło, dzie na dziesiać zapaviedzinaú mieniej i pić možna až pa samaje dno. Kipling

**Дурны сядзіць, склаўшы рукі свае**, і зьядае цела сваё. Э. 4.5. Будзьма разумныя

**Пакуль сонца ня згасьне**, пакуль сьвецяцца зоры, Беларусь не загіне, будзе жыць Беларусь! Валацугі з Браслава

**Biełaruś savieckaja** — Biełarus biaz budučyni. Vałacuhi z Brasłava

**Pa-albansku** (pa-iliryjsku) «vend» — heta «kraj». Značyć, staražytnyja «vieniedy» — heta «tutejšyja». Hieranim Celius

**Pa-biełarusku** miesiac vie-rasień, pa-údmurcku taki ž miesiac auku-rasion. Mabyć, Laskoú mieú racyju. Hieranim Celius

**My pavinny pamiatać**, što insyja narody nas nia viedajuć i nie razumiejuć, što jany Rasieji bajacca, nie spačuvajuć joj i hatovyja ciešycca úsiakum jaje aslableńniem. Rasiejski šavinist J.Iljin

**Rasieja** — asudžanaja Imperyja. U sučasnym śviecie niama miesca dla Aústra-Vuhorščyn. H.Fiadotaú

**Абавязкова трэба правесьці** прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ў ліпені 2000 году. Ян Беларус

**Пакайцеся!** Госпад любіць вас! Слава Ісусу!

**Дык няхай радуюцца** ўсе, што на Яго спадзяюцца. Пс. 5:12

**Хрыстос Ісус** прыйшоў у сьвет ратаваць грэшнікаў. 1 Цім. 1:15

**Беларуская нацыя**, мова, культура, прастора і час — для найвышэйшага, хрысьціянскага сэнсу, які іх напаўняе! Нацыянальная ідэя

**Хрысьціяне!** Абуджэньне ў Беларусі пачынаецца. Будзьма ж еднымі! Зьвяртайцеся: 245-97-54, Яўген

**Джадж пісаў**: «Палітык — гэта чалавек, гатовы зрабіць усё на сьвеце для рабочых, акрамя як зрабіцца адным зь іх». Браты, ачніцеся. Андрусь В.

**Зь песьні**: «Не дадзім жа ворагу наш народ ганьбіць, як жылі мы вольныя, так і будзем жыць... Хай ракою кроў! За сьцягі, за волю, за зямлю Бацькоў». Андрусь В.

**«Вось я па-вашаму** халуй, вось ён — канечне крывіч, а там знойдуцца нават і яны — звычайны беларус зь ліцьвінам. Браты! А хто ж астатнія? Няўжо... А час ідзе» Андрусь В.

**Вось гэта праўда**, што беларускі наш народ (прабачце) «згвалтаваны». Радзіма — маці — да крыві зруйнавана, а нашая культура проста зрабавана. Андрусь В.

**«Чаму афрыканскія народы** маюць права быць незалежнымі, а мы (беларусы) не?» Сапраўды, чаму? Б.Кіт і Aleks

**Сьвятой памяці М.Ермаловіча**

Выказваем спачуваньне ўсім Беларусам і Ліцьвінам у сувязі з трагічнай і заўчаснай сьмерцю Міколы Ермаловіча.

*Руслан Равяка*

*Дык стойце ж у свабодзе, якую даў нам Хрыстос (Галят. 5.1).*

**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**

*штонядзелю ў Менску а 17-й гадзіне: вул. Любімава 21-56, тэл.: 270-89-87, 279-71-31; штонядзелю ў Асіповічах аб 11-й гадзіне: вул. Ленінская 40, тэл.: 20-840.*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук.
**Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3801. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 0:14, 27.03.2000 . Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 1500. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны.
Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас Менск, Бабруйская, 19/36